ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 54 (2515)
ПЯТНІЦА
9
кастрычніка 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

## І ВАЖКІ КОЛАС—УЗНАГАРОДАЙ...

**11 КАСТРЫЧНІКА — УСЕСАЮЗНЫ ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ**



Восень. Шэрае, спакойнае неба. Сцішыліся палеткі. Дзе нядаўна гаманіла пад ветрам збажына, жаўцеюць саламяныя пірамідзі, дзе глядзеў у неба блакітнымі вачыма лён—тлусцеюць скібы пульхнай раллі, у садзе падае долу пераспелая антонаўка... Цішыня на зямлі, цішыня, якую парушае толькі адвечная песня жураваў, што сабраліся ў вырай...

Восень, чырвоная восень. Гэта не толькі чырвань лістоты, гэта чырвоная рыса, падведзеная, як вынік, пад гадавой руплівай працай селяніна.

Некалі пясняр наш Янка Купала пісаў:

*По новаму восень палеткі*
*Абходзіць, глядзіць гаспадаркі...*
*Пайшлі аддыхаць пад паветкі,*
*Згулўшы дажынкі, жняўркі.*

Час унёс свае карэктывы ў гэтыя радкі. Мабыць, не ў кожнай вёсцы помняць зараз слова «жнівярка». Сённяшняя жнівярка — машына, якая ўладна прыйшла ў жыццё. Машына жне, машына капае бульбу, машына сіласуе, машына корміць і поіць жывёлу...

І паветкі не тыя, што бачыў некалі паэт. Мураванымі дамамі, асфальтам і водаправодам не здзівіш сённяшнюю вёску. Яна, гэтая вёска, шмат чытае, ёй блізкія ўсе здабыткі нашай культуры.

А людзі? Выдатныя выраслі ў вёсцы людзі. Адукаваныя, сучасныя, яны на «ты» з самай складанай тэхнікай.

На нашым здымку — Маргарыта Курчанкова, лепшая трактарыстка калгаса імя Чапаева Баранавіцкага раёна. Яна закончыла мясцовую сярэднюю школу, пасля пайшла вучыцца на механізатара і вось ужо каторы год выдатна працуе.

Паслязаўтра ў Маргарыты Вікенцьеўны, у яе сяброў, ва ўсіх хлеборобаў свята—Усесаюзны дзень работнікаў сельскай гаспадаркі.

Добрага плёну ім, людзям, што робяць зямлю нашу карміцелькай!

Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА).

# Х З'ЕЗДУ АРХІТЭКТАРАЎ БССР

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі горача і сардэчна вітае дэлегатаў Х з'езда архітэктараў БССР, усіх работнікаў архітэктурнай грамадскасці рэспублікі і жадае з'езду вялікіх поспехаў у рабоце.**

**Ваш з'езд праходзіць у знамянальны час — у год стагоддзя з дня нараджэння У. І. Леніна і падрыхтоўкі да XXIV з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, калі ўсе савецкія людзі з вялікім творчым уздымам нясуць працоўную вахту ў гонар гэтай знамянальнай падзеі ў жыцці краіны, дэманструюць свае дасягненні ў галіне развіцця эканомікі, навукі і культуры.**

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі з задавальненнем адзначае, што архітэктары і будаўнікі, работнікі праектных і навукова-даследчых арганізацый рэспублікі актыўна ўдзельнічаюць у практычным ажыццяўленні велічнай праграмы камуністычнага будаўніцтва. Сваёй працай яны ўдасканальваюць горадабудаўнічую практыку рэспублікі, ствараюць і ажыццяўляюць у натуры праекты многіх сучасных будынкаў і збудаванняў.**

**Новыя велізарныя аб'ёмы будаўніцтва ў рэспубліцы ставяць перад архітэктарамі Беларусі вялікія задачы па паляпшэнні планіроўкі нашых гарадоў, вёсак і прамысловых комплексаў. Строгасць і мастацкая выразнасць архітэктурных форм, арганічна звязаных з канструкцыямі, матэрыяламі і індустрыяльнымі метадамі будаўніцтва, павінны стаць асноўнымі крытэрыямі ў рабоце архітэктараў. Яны заклікаyы ствараць новыя выразныя ансамблі, праяўляць пастаянны клопат аб паляпшэнні планіроўкі і добраўпарадкавання населеных пунктаў, удасканаленні ўмоў працы і быту савецкіх людзей.**

**Ліпеньскі (1970 года) Пленум ЦК КПСС паставіў адказныя задачы па развіцці эканомікі калгасаў і саўгасаў, павышэнні культуры сельскага насельніцтва, карэнным паляпшэнні забудовы і добраўпарадкавання калгасаў і саўгасаў. Абавязак архітэктараў — удзяліць асаблівую ўвагу праблемам пераўтварэння сельскіх населеных месц, прыняць актыўны ўдзел у стварэнні эканамічных і разнастайных тыпавых праектаў жылых, грамадскіх і вытворчых будынкаў, якія ўлічвалі б спецыфіку сельскагаспадарчай вытворчасці, жыцця і быту сельскага насельніцтва рэспублікі.**

**Праца архітэктараў мае вялікае сацыяльнае і грамадскае значэнне. Саюз архітэктараў Беларусі заклікан выхоўваць у іх пачуццё высокага абавязку і адказнасці перад народам, садзейнічаць павышэнню прафесіянальнага майстэрства, ідэйнаму і творчаму росту. Намаганні Саюза архітэктараў павінны быць накіраваны на ўкараненне ў практыку ўсяго новага, перадавога, прагрэсіўнага, што садзейнічае стварэнню значных твораў архітэктуры, паляпшэнню аблічча гарадоў і вёсак.**

**Цэнтральны Камітэт КП Беларусі выказвае цвёрдую ўпэўненасць у тым, што архітэктары рэспублікі ў ходзе спаборніцтва ў гонар XXIV з'езда КПСС і наступнай рабоце ўнясуць дастойны ўклад у вырашэнне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад савецкім народам, аддадуць усе свае сілы і веды вялікай справе будаўніцтва камунізма ў нашай краіне.**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КП БЕЛАРУСІ.**

## НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА «ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА» АДКАЗВАЕ НАМЕСНІК МІНІСТРА СЕЛЬСКАГА БУДАЎНІЦТВА БССР А. А. ЧЫЖЫК

Два з нечым гады назад у Гродне праходзілі Дні літоўскай літаратуры. Гасцям, натуральна, заўсёды імкнуцца паказаць лепшае, і гаспадары павезлі іх у калгас «Прагрэс». Быў сакавіцкі дзень з нізкім шэрым небам і такім жа шэрым, рыхлым снегам, калі прыглушаны ўсе фарбы і, здаецца, нічога не вабіць вока. Але тут, у новым вясковым пасёлку, мала хто змог стрымаць захапленне. Госці доўга стаялі перад на дзіва лёгкім будынкам Палаца культуры, аздобленым з фасаду мазаікай, дзівіліся прыгажосці катэджаў—яны былі не шэрыя блізняты, а нейкія кожны на свой лад, абліцаваныя каляровай пліткай. Не было яшчэ дарогі, там-сям стаялі рыштаванні, але ўсё роўна ад гэтага відовішча на сэрцы станавілася святочна, як бывае ад блізкасці з прыгожым.

Менавіта з новага пасёлка калгаса «Прагрэс» і пачалася наша гаворка з намеснікам міністра сельскага будаўніцтва рэспублікі Аляксандрам Аляксандравічам Чыжыкам.

— Гэта адзін з нашых аб'ектаў, дзе праводзіцца комплекснае эксперыментальнае будаўніцтва, — сказаў Аляксандр Аляксандравіч.

— А многа іх?

— У кожнай вобласці падабрана некалькі калгасаў, саўгасаў, дзе правяраецца шэраг горадабудаўнічых прынцыпаў, каб пасля іх укараніць у масавую практыку. Наогул жа схемамі раённай планіроўкі ў рэспубліцы вызначаны к перспектыўнаму развіццю каля 6 тысяч найбольш буйных населеных пунктаў з 30 тысяч наяўных. У гэтых месцах прадугледжана сканцэнтраваць ўсё жыллёвае будаўніцтва, размясціць культурна-бытавыя ўстановы, вытворчыя комплексы.

Большасць гаспадарак забяспечана планіровачнай дакументацыяй. Па генеральных планах, складзеных архітэктарамі, паспяхова перабудоўваюць свае сядзібы саўгас «Камунар» на Гомельшчыне, калгас імя Калініна Няс-

## ад пятніцы да пятніцы

### СЕМІНАР КІНАДРАМАТУРГАЎ

Дванаццаць дзён у Каралішчавічах у Доме творчасці Саюза пісьменнікаў БССР праходзіў рэспубліканскі семінар сцэнарыстаў мастацкага кіно. У ім прынялі ўдзел беларускія кінадраматургі і маскоўскія госці. На працягу амаль двух тыдняў у дзелавой абстаноўцы абмяркоўваліся надзённыя праблемы кінематографа, вывучаліся вопыт, майстэрства сцэнарыстаў.

Кіраўнікамі творчага семінара былі маскоўскія кінадраматургі і кіназнаўцы Б. Мятальнікаў, Ф. Міронер, М. Блейман, Б. Дабрадзееў, А. Галіч, В. Грыгор'еў, Ю. Шэр, а таксама беларускія сцэнарысты М. Лужанін, М. Фрайман і іншыя.

Удзельнікі семінара праслухалі лекцыі пра сучаснае савецкае і замежнае кінамастацтва, метады і шляхі стварэння кінакарцін розных жанраў.

Член сцэнарнай калегіі студыі «Беларусьфільм» народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў расказаў пра стан і шляхі далейшага развіцця розных жанраў беларускай літаратуры і кінадраматургіі.

Гутарка намесніка міністра сельскай гаспадаркі БССР У. Самсонава была прысвечана адлюстраванню жыцця калгаснай вёскі ў кіно.

У абмеркаванні кінасцэнарыяў маладых драматургаў, у творчых дыскусіях прынялі ўдзел прадстаўнікі Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі, Саюза пісьменнікаў БССР, Саюза кінематаграфістаў і студыі «Беларусьфільм».

### НА ЗАВОДСКАЙ СЦЭНЕ

Трывалая дружба ўстанавілася паміж творчымі работнікамі Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага і калектывам Мінскага камвольнага камбіната. Камвольшчыкі—заўсёды жаданыя госці ў тэатры. І ў сваю чаргу гасцінна прымаюць у сябе акцёраў, рэжысёраў, мастакоў тэатра.

На гэты раз дырэкцыя, партыйная і прафсаюзная арганізацыі тэатра вырашылі правесці ў Палацы культуры камбіната шырокую творчую справаздачу. Яна працягнецца 10 дзён — з шостага па шаснаццатае кастрычніка. Тэатр пакажа спектаклі «Узрост расплаты», «Марыя Сцюарт», «Маскарад», «Марыя», «Варшаўская мелодыя», «Усяго адно жыццё» і іншыя.

У пастаноўках прымуць удзел народныя артысты СССР А. Клімава, Я. Палосін, народныя артысты БССР Р. Янкоўскі, Г. Абуховіч, заслужаныя артысты рэспублікі І. Ражба, Ю. Сідараў, І. Лакштанава і іншыя.

Пасля спектакляў удзельнікі спектакляў сустрэнуцца з гледачамі.

## У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ГАНАРОВЫЯ ГРАМАТЫ ЦК ЛКСМБ

**уручаны вялікай групе пісьменнікаў — былых актыўных камсамольцаў.**

**Сярод узнагароджаных — І. Мележ, П. Кавалёў, А. Савіцкі, А. Астрэйка, М. Калачынскі, Р. Сабаленка, А. Кулакоўскі, І. Грамовіч, Е. Лось і іншыя—усяго больш 50 чалавек.**

**Ганаровыя юбілейныя ўзнагароды пісьменнікам уручыў сакратар ЦК камсамола Беларусі Г. Анціпаў.**

### ...АДБЫЛОСЯ

**адкрыццё лекторыя для творчай інтэлігенцыі ў рэспубліканскім Доме мастацтваў. Першыя заняткі лекторыя былі прысвечаны 50-годдзю Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. З расказамі аб творчым шляху старэйшага тэатра выступілі народны артыст СССР Л. Рахленка і народны артыст БССР С. Бірыла.**

**Удзельнікі лекторыя прагледзелі дакументальны фільм, прысвечаны купалаўцам.**

### ...УРУЧЭННЕ

**ганаровых знакаў таварыства германа-савецкай дружбы актыўным членам Беларускага таварыства культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбылося ў Мінску.**

**Залатыя і сярэбраныя знакі групе ўзнагароджаных уручыў першы сакратар пасольства ГДР у Маскве Ганс Хаўбольт.**

**Сярод актыўных дзеячоў таварыства, якім уручаны ганаровыя знакі — намеснік старшыні выканкома Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных Г. Казачок, дырэктар выдавецтва «Беларусь» З. Матузаў, журналіст Н. Рыдзеўскі і іншыя.**

### ...ВЯРНУЎСЯ

**з сваёй першай гастрольнай паездкі па гарадах і сёлах Падмаскоўя, Паволжа і Сярэдняй Азіі эстрадны калектыў «Беларускі сувенір».**

**Пасланцы беларускай эстрады — заслужаны артыст БССР Г. Мартынаў, Я. Іванова, Людміла і Уладзіслаў Родзіны, А. Рыжкова, М. Урбановіч, Л. Шурман, І. Вішнеўская, Г. Кастрыца, У. Земіраў і музычны ансамбль «Дыксіленд» пабывалі з канцэртамі ў нафтавікоў Татарыі, машынабудаўнікоў Куйбышава, хімікаў Саратава, у горадзе-героі Волгаградзе, на радзіме У. І. Леніна — ва Ульянаўску і іншых месцах краіны.**

**На радзіме Сяргея Ясеніна ў сяле Канстанцінава, што на Разаншчыне, артысты наведалі літаратурны музей паэта і сфатаграфаваліся з яго сястрой Аляксандрай.**

## З ПАКЛОНАМ ДА ЦЯБЕ, ЗЯМЛЯ КУПАЛЫ!

Здаўна славяцца сваім харαством аколіцы Радашковіч. Меднастволыя бары змяняюцца празрыстымі бярозавымі гаямі, крынічныя рэчкі не замярзаюць нават у сцюжы, а ў лагчынах паміж узгоркамі туляцца маляўнічыя вёсачкі, і сярод іх — Вязынка, радзіма Янкі Купалы. Гэты край быў калыскай паэта, тут вялікі пясняр Беларусі ўпершыню ўбачыў і адчуў прыгажосць роднай зямлі.

З тутэйшымі мясцінамі звязаны і больш познія незабыўныя старонкі жыцця Купалы. У 1913 годзе ў Радашковічах аматарамі-энтузіястамі была ўпершыню пастаўлена на сцэне яго бессмяротная «Паўлінка».

Таму зразумела тое асаблівае хваляванне, з якім ехала ў Радашковічы на сустрэчу з гледачамі група артыстаў Беларускага драматычнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

— Дзесяткі разоў мы выязджалі ў розныя куткі Беларусі, і кожная паездка пакідала свой след у душы. Але ўсё ж гэта, апошняя, была сапраўды непаўторнай, — расказала нашаму карэспандэнту народная артыстка СССР Лідзія Іванаўна Ржэцкая.—У дні святкавання 50-годдзя тэатра мы ехалі ўшанаваць памяць чалавека, імя якога носіць наш тэатр, пакланіцца зямлі, якая яго ўзгадавала.

Мы з хваляваннем чакалі сустрэчы з Купалавымі землякамі ў Радашковічах, але адбылася яна раней — за некалькі кіламетраў да мястэчка наш аўтобус сустрэлі другі сакратар Маладзечанскага райкома партыі Вячаслаў Ляшковіч, дырэктар саўгаса імя Купалы Лявон Волкаў і іншыя прадстаўнікі грамадскасці. З гэтага моманту і да нашага ад'езду ў Мінск гасцінныя гаспадары зрабілі ўсё, каб наша падарожжа было цікавым, прыемным і карысным.

Мы пазнаёміліся з багатай гаспадаркай саўгаса, пабывалі ля помніка Мікалаю Гастэлу, узведзенага на месцы яго гераічнай гібелі і, зразумела, наведалі ўсе мясціны, звязаныя з жыццём Янкі Купалы.

З пачуццём вялікай пашаны ўсклалі мы вянкі да помніка Купалу ў Радашковічах, запісалі шчырыя словы падзякі ў Кнізе водгукаў Дома-музея паэта ў Вязынцы, дзе нас сардэчна прымалі дырэктар Людвіга Раманоўская, супрацоўнікі музея, а таксама маленькія жыхары Вязынкі з букетамі жывых кветак.

Усё — пачынаючы ад назвы саўгаса і канчаючы хвалюючай сустрэчай з гледачамі ў Радашковіцкім Доме культуры — нагадвала нам аб вялікім паэту і чалавеку, любоў да якога не гасне ў людскіх сэрцах...

Акрамя Л. Ржэцкай, гасцямі Радашковіч былі народныя артысты СССР Леанід Рахленка і Здзіслаў Стома, народныя артысты БССР Галіна Макарава, Уладзімір Дзядзюшка і Мікалай Яроменка, артысты Ала Доўгая і Валерый Анісенка. Зноў на Радашковіцкай сцэне гучалі неўміручыя словы купалаўскай «Паўлінкі», якая зусім не пастарэла за гэтыя 67 гадоў. Горача прымалі жыхары Радашковіч і навакольных вёсак выступленні любімых артыстаў.

Л. Рахленка расказаў аб гісторыі і традыцыях старэйшага тэатра Беларусі, М. Яроменка — аб удзеле артыстаў тэатра ў рабоце рэспубліканскіх і саюзных кінастудый. Прысутныя з цікавасцю прагледзелі дакументальны фільм «Купалаўцы», зроблены на Беларускай студыі тэлебачання, і ўрыўкі з мастацкіх фільмаў, у якіх удзельнічалі беларускія артысты.

— Паездка на радзіму Купалы не толькі ўсхвалявала і расчуліла нас,— гаворыць Л. Ржэцкая. — Яна яшчэ раз нагадала аб вялікай адказнасці за гонар насіць слаўнае імя купалаўцаў.

# ВОСЕНЬ— ПАРА ПРЭМ'ЕР

Заўсёды шкада, калі канчаецца лета. Лета з буйным цвіценнем і гарачым сонцам, лета з непаўторнай палітрай фарбаў і... водпускамі. Пусцеюць канцэртныя залы і эстрадныя пляцоўкі, прасторна робіцца на рэкламных стэндах...

Але на змену лету прыходзіць восень. Пара, калі адкрываецца канцэртны сезон і на афішах з'яўляюцца прозвішчы жаданых гастралёраў, калі маляўнічая рэклама запрашае на цыркавое прадстаўленне і ўзнімаецца заслона тэатраў.

Амаль ва ўсіх абласных тэатрах рэспублікі чарговы сезон пачынаецца ў кастрычніку.

Наш карэспандэнт папрасіў галоўных рэжысёраў і рэжысёраў тэатраў расказаць аб новых прэм'ерах, якія чакаюць гледачоў у гэтым сезоне, аб зменах, якія адбыліся ў трупах, аб тым, што хвалюе калектывы. І вось расказалі...

**Іосіф ПАПОЎ,**
галоўны рэжысёр Гомельскага абласнога драматычнага тэатра:

— Яшчэ ў час гастроляў мы думалі аб нашых будучых сустрэчах з гледачамі і вельмі хацелі, каб ужо ў пачатку сезона на афішы з'явіліся новыя назвы. У Житоміры мы падрыхтавалі «Беспасажніцу». Гэтым спектаклем мы і пачнём сезон. Падрыхтавалі таксама камедыю Б. Рацара і Б. Канстанцінава «Няроўны шлюб». У канцы мінулага сезона выпусцілі прэм'еру па п'есе Дэльмара «Саступі месца заўтрашняму дню» ў пастаноўцы маладога рэжысёра Лідзіі Манаковай.

Зараз працуем над Шэкспірам. Ставім. «Атэла». Гэта, канечне, і адказна і хвалююча.

У нашым партфелі п'есы А. Макаёнка, А. Маўзона, А. Дзялендзіка.

віжскага раёна, «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна. У «Савецкай Беларусі», напрыклад, замест дванаццаці невялікіх вёсак будуць створаны тры буйныя населеныя пункты. У цэнтральным пасёлку ўжо збудаваны два васьмікватэрныя дамы і 50 аднакватэрных, палац культуры на 520 месц. Абсталяваны кацельня, лазня, водаправод, каналізацыя, цэнтральнае ацяпленне. У калгасе прадугледжваецца ў бліжэйшыя гады пабудаваць агульнаадукацыйную і музычную школы, дзіцячыя сад-яслі, фельчарска-акушэрскі пункт.

Аб размаху будаўніцтва ў вёсцы гаворыць такая лічба—толькі ў гэтым годзе аб'ём работ вызначаецца сумай

# ПЕРСПЕКТЫВА: 6 ТЫСЯЧ НОВЫХ ВЁСАК

у 189 мільёнаў рублёў, што на 11 працэнтаў больш, чым было выдаткавана летась.

Я кажу намесніку міністра, што будаўнікі часта некрытычна пераносяць у вёску метады і прынцыпы гарадскога будаўніцтва: не ўлічваецца спецыфіка вёскі, наяўнасць у селяніна падсобнай гаспадаркі—гарода, жывёлы і г. д.

— Тут ёсць два пункты гледжання,—адказвае Аляксандр Аляксандравіч.—Першы—усе падсобныя памяшканні: хлявы, павеці кампанаваць разам з жылымі дамамі. Другі—размяшчаць іх у адным месцы на пэўнай адлегласці ад жытла, скажам, метраў за 300. Я, напрыклад, прыхільнік апошняга. Сапраўды, прыедзеш у новую вёску—вуліца як вуліца, а прыгледзішся, дык становіцца прыкра — кожны дом, што той пень, які аброс грыбам—увесь у нейкіх драўляных, на хуткую руку зробленых прыбудовах. Бруд, кучы гною, непрыгожа...

— Але ж без сваёй кароўкі, без свінчаці, курэй пакуль што селяніну не абысціся...

— Калі ласка, усё гэта можна ўтрымліваць у агульным хляве, падзеленым на асобныя адсекі для жывёлы кожнага гаспадара.

— І бегаць даіць кароўку за паўкіламетра ці тую ж мешанку свінчаці насіць?.:

— Гэта так здаецца,—гаворыць Аляксандр Аляксандравіч.—Вось вам жывы прыклад: у саўгасе «Мухавец» на Брэстчыне побач з капітальнымі дамамі жыхары былі таксама набудавалі безліч розных падсобных памяшканняў. Кіраўніцтва саўгаса вырашыла ўзвесці за вёскай агульны хлеў для прыватнай жывёлы. Пры хляве абсталявалі кармакухню, каб кожны мог тут прыгатаваць жывёле корм. Пасля літаральна за адзін дзень усе старыя пабудовы зламалі і, дальбог, пасёлак адразу папрыгажэў.

— Ну і як, задаволены рабочыя?

— Не ведаю, даўно там не быў. Але думаю, што задаволены...

Свежае паданне... Я ведаю, што такое камунальная кухня. Нават на тры-чатыры гаспадыні... А тут, відаць, чалавек на 15—20. І не сабе трэба згатаваць, сабе, бывае, можна і пачакаць,—жывёле. І трэба паставіць на агонь добры цэбар бульбы, буракоў, мешанкі. Не верыцца нешта ў такое выйсце. Але шукаць, вядома, трэба. А што розныя прыбудовы псуюць выгляд вёскі—тут намеснік міністра мае, канечне, рацыю.

Дарэчы, наконт прыгажосці. На жаль, калгас «Прагрэс» у гэтым сэнсе прыемнае выключэнне. Мне давялося бываць у многіх новых вёсках і заўсёды звяртаеш увагу на шэрасць забудоў, шэрасць, прынамсі, іх архітэктурнага вырашэння. Усе дамы на адзін капыл. І, галоўнае, матэрыял нецікавы. Цэгла або блокі. Сумота. Цікаўлюся, якой думкі наконт гэтага Аляксандр Аляксандравіч.

— Цалкам згодзен,—гаворыць ён.—Рэспубліка наша пакуль што адстае з вытворчасцю прыгожых і трывалых абліцовачных матэрыялаў. Прызнаюся, што абліцовачныя пліткі для калгаса «Прагрэс» мы набывалі ў Літве. Нельга абысці маўчаннем і такі факт—у нас вельмі слабы архітэктурны нагляд. Па сутнасці, у некаторых месцах яго наогул няма. Вы бачылі сельмагі? Усе аднолькавыя. Праўда, у апошні час многія магазіны спажыўкааперацыі пачалі абліцоўваць рознакаляровай пліткай (арганізацыя багатая і матэрыялы дастае хутчэй), але робіцца гэта без усякага густу—выкладуць на фасадзе фігуры пеўняў і задаволены . Далей фантазія не ідзе. І ўсё таму, што няма вока архітэктара. Між іншым, у рэспубліках Прыбалтыкі архітэктараў у дванаццаць разоў болей, чым у нас.

Але ўсё гэта, як кажуць, цяжкасці росту. Галоўнае, з кожным годам усё больш і больш сельскіх працаўнікоў перасяляецца ў новыя добраўпарадкаваныя дамы, якія маюць усе камунальныя выгоды. Дом з водаправодам, з газам, з ваннай у вёсцы—факт вялікага значэння.

Я кажу Аляксандру Аляксандравічу, што не раз чуў скаргі сельскіх жыхароў на даволі высокі кошт новага жытла. Маўляў, раней было дзешавей...

— Сапраўды, кошт квадратнага метра жылля зараз складае 250 рублёў. Але ж раней мы будавалі ў вёсцы дамы, якія, акрамя, скажам, планіроўкі і матэрыялу, нічым не адрозніваліся ад звычайнай сялянскай хаты—г. зн. не было амаль ніякіх камунальных выгод. А цяпер? Ва ўсіх новых пасёлках праводзяцца камунікацыі: вада, газ, каналізацыя, пракладваюцца дарогі і г. д.

— А як з выкарыстаннем новых будаўнічых матэрыялаў, аблегчаных канструкцый? Гэта ж, мабыць, дае магчымасць знізіць кошт будаўніцтва?

— Так, практыка паказвае мэтазгоднасць укаранення ў сельскім будаўніцтве аблегчаных канструкцый і вырабаў з асбестацэменту, драўніны, керамзіту, шклопластыку і іншых прагрэсіўных матэрыялаў. І мы ідзём па гэтым шляху. Так у некаторых гаспадарках ужыты ўжо аблегчаныя драўляныя канструкцыі на будаўніцтве птушнікаў. Гэта дае і пэўную эканомію сродкаў і часу. Але пакуль што многія з гэтых новых матэрыялаў—дэфіцытныя.

Справу часам тармозіць адсутнасць адзіных стандартаў у будаўнічых матэрыялах. Скажам, частку шкла мы атрымліваем такіх памераў, якія не адпавядаюць устаноўленым стандартам вокнаў, дзвярэй. Тое ж самае атрымліваецца і з многімі драўлянымі і жалезабетоннымі канструкцыямі. Не ўсё добра ў нас і з арганізацыяй будаўнічых работ.

— Мне расказваў адзін старшыня калгаса, як у яго будавалі кароўнік... дзесяць субпадрадных арганізацый. Усе з розных ведамстваў, адзін аднаму не падначальваецца, адзін на аднаго перакладае віну...

— Здараецца і такое, але без спецыялізацыі, вядома, не абысціся. Іншая справа, што, на маю думку, мэтазгодней, каб субпадрадчыкі былі падначалены генпадрадчыку, карацей, мелі аднаго гаспадара.

Што датычыць старшыні, які вам скардзіўся на будаўнікоў, дык не ведаю, як ён, ёсць яшчэ ў нас кіраўнікі гаспадарак, якія пастаянна ўмешваюцца ў ход будаўніцтва, якое вядзецца па зацверджаным праекце. Кіруюцца пры гэтым толькі сваім густам, сваімі меркаваннямі. То яму здаецца, што лежакі для кароў кароткія, то вокны вузкія... Звар'яцець можна.

Гаворка заходзіць пра кадры сельскіх будаўнікоў. Аляксандр Аляксандравіч гаворыць, што гэта адна з галоўных праблем. Тут свая спецыфіка. Асноўная, калі можна так сказаць, дзеючая адзінка —перасоўная механізаваная калона. Натуральна, яна большасць часу на колах. Чалавек надоўга адарваны ад сям'і. Ці кожны вытрымае такое? Адсюль—цякучка кадраў. Зараз узяты курс на тое, каб кожная ПМК абслугоўвала не 5—6 раёнаў, як раней, а адзін-два, каб рабочы меў у раённым цэнтры пастаянны дом. Зноў жа—праблема з жытлом. Але з цягам часу яна, вядома, вырашыцца.

— Міністэрства наша маладое,—гаворыць Аляксандр Аляксандравіч,—яму толькі пяць гадоў. І з кожным годам мы набіраем сілу, тэмпы. Будаўніцтва на сяле набывае ўсё большы і большы размах, яно пераводзіцца на індустрыяльныя рэйкі. У рэспубліцы ўзводзіцца некалькі сельскіх камбінатаў, якія будуць выпускаць буйныя канструкцыі для жыллёвага і вытворчага будаўніцтва.

Мы разумеем, што перабудова вёскі—складаная праблема, якая ўключае ў сябе шмат эканамічных, сацыяльных і тэхнічных пытанняў. Упэўнены, што ўсе яны будуць паспяхова вырашаны.

М. ЗАМСКІ.

---

Вялікім поспехам карыстаецца ў многіх тэатрах краіны п'еса А. Салынскага «Марыя». Мы таксама думаем яе паставіць. Нас вабіць моцная асоба, якая стаіць у цэнтры п'есы.

У задумках А. Чэхаў, Лопэ дэ Вэга.

У нашым калектыве шмат моладзі, таму мы наладжваем заняткі па павышэнні акцёрскага майстэрства. Збіраемся паставіць вучэбны спектакль.

Вас цікавіць наш настрой? Рады сказаць — добры, рабочы.

### Георгій ВОЛКАЎ,

галоўны рэжысёр Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі·

— Пачалі сезон прэм'ерай спектакля «17 імгненняў вясны». Гэта інсцэніроўка аднайменнай аповесці Ю. Сямёнава. Хутка на нашай афішы з'явіцца яшчэ адна назва. — «Дон Хіль Зялёныя штаны» Цірса дэ Маліна.

Зараз бяром у работу адразу тры п'есы: «Усяго адно жыццё» А. Маўзона, «Старыя сябры» Л. Малюгіна і п'есу для дзяцей. Можа — «Будзьце гатовы, ваша высокасць» Л. Касіля.

Спадзяёмся, што ў гэтым годзе пазнаёмім гледачоў з новай рэдакцыяй п'есы К. Губарэвіча «Брэсцкі мір». Думаем таксама аб пастаноўцы новай п'есы А. Штэйна «Італьянская трагедыя», якая напісана паводле вельмі папулярнага і любімага моладдзю рамана Этэль Ліліян Войніч «Авадзень». З класікі нас хвалюе І. Тургенеў і М. Горкі.

Сёлета трупа наша папоўнілася некалькімі маладымі акцёрамі і, як кажуць, прыбыло ў нашым рэжысёрскім палку. Шмат гадоў запар ішоў да сваёй мары—ставіць спектаклі — заслужаны артыст БССР Сяргей Яўдошанка. Нарэшце ён залічаны ў штат рэжысёраў.

Калі гаварыць аб праблемах, якія нас сёння хвалююць, дык павінен сказаць, што іх многа. Ну, напрыклад, рэпертуар. Хацелася б акрамя тых п'ес, якія я ўжо назваў, яшчэ адну — буйную праблемную п'есу аб нашым сённяшнім дні. Шукаем. Чакаем. Думаю, дачакаемся.

Не менш сур'ёзная і хвалюючая праблема, якая стаіць асабліва востра ў нашым тэатры, — выхаванне маладога артыста. Тут супакойвацца нельга, бо выхаванне — працэс бясконцы.

Відаць, гэта добра, што нас заўсёды нешта хвалюе, нешта не задавальняе. Без гэтага немагчыма рабіць тэатр.

### Аляксандр СТРУНІН,

галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра:

— Сёлетні сезон, які мы адкрылі спектаклем «Акіян», вельмі адказны: мы прысвячаем яго XXIV з'езду партыі.

Апошнія гады былі «ўраджайнымі» ў беларускіх драматургаў. Мы ўключылі ў рэпертуар адразу тры п'есы: «Амністыя» М. Матукоўскага, «Адкуль грэх» А. Петрашкевіча і «Трыбунал» А. Макаёнка. Непасрэдна перад з'ездам выпусцім «Дні Турбіных» М. Булгакава. Нацэліліся на п'есу У. Семяніхіна і Ю. Малышава «Касманаўты», прэм'ера якой ужо адбылася ў Калузе, на радзіме Цыялкоўскага. Не забыліся мы і пра дзяцей. Для іх падрыхтуем спектакль «Незвычайная зорачка» па п'есе М. Гарфельда.

Пры 10-й Гродзенскай сярэдняй школе наладжваем лекторый па эстэтычным выхаванні дзяцей.

Гэты сезон вельмі адказны, і мы прыкладзём усе намаганні, каб стварыць цікавыя высокамастацкія спектаклі.

### Андрэй РАЕЎСКІ,

рэжысёр Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра:

— Нягледзячы на тое, што свой чарговы тэатральны сезон на асноўнай пляцоўцы ў Магілёве мы адкрыем яшчэ толькі ў канцы кастрычніка, работа ідзе поўным ходам . Дзве групы артыстаў, якіх мы ўмоўна для кароткасці і яснасці называем «Другая» і «Усяго адно жыццё», зараз ездзяць па раёнах нашай вобласці. Астатнія рэпеціруюць. Наша чарговая прэм'ера — «Канец Хітрова рынка». Потым — «Нора» Г. Ібсена і «Амністыя» М. Матукоўскага.

У сёлетняй афішы зноў з'явяцца назвы п'ес беларускіх драматургаў, якія мы ставілі ў мінулыя гады і якія па тых ці іншых прычынах сышлі са сцэны: «Мурын бор» І. Ісачанкі, «Гэта было ў Магілёве» Я. Тарасава.

Каб афіша склалася цікава, зразумела, трэба многа працаваць. Самааддана працаваць. Мы гатовы.

---

# КАМСАМОЛЬСКІЯ ЮБІЛЕЙНЫЯ...

**Беларускія літаратары і мастакі, кампазітары і кінематаграфісты, работнікі тэатра заўсёды былі надзейнымі памочнікамі камсамола ў выхаванні юнага пакалення. Едучы на ўдарныя новабудоўлі і ў казахстанскія цалінныя стэпы, адпраўляючыся пракладваць новыя магістралі на прасторах Сібіры і Поўначы, юнакі і дзяўчаты разам з камсамольскай пуцёўкай бралі з сабой бадзёрую песню і любімую кнігу. У іх маладыя пераўтваральнікі жыцця чэрпалі сваё натхненне, знаходзілі ўзор камуністычных адносін да працы, бачылі яркі прыклад для пераймання. Моладзь любіць тыя кнігі, тыя творы мастацтва, у якіх ярка паўстае воблік нашага маладога сучасніка, адлюстраваны яго гераічныя справы, светлыя мары і памкненні.**

**У канцы верасня беларускі камсамол урачыста адзначыў свой слаўны пяцідзесяцігадовы юбілей. У дні ўрачыстасцей прагучала і ўдзячнае слова камсамольцаў у адрас работнікаў літаратуры і мастацтва. У тыя дні, як ужо ведае чытач, былі названы імёны тых, чыю працу, чый вялікі ўклад у камуністычнае выхаванне моладзі камсамол рэспублікі адзначыў юбілейнымі прэміямі.**

**Прэмію Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі ў галіне літаратуры ЦК ЛКСМБ прысудзіў Алесю Савіцкаму — за аповесць «Самы высокі паверх» і іншыя творы аб камсамоле і моладзі. Пачынаючы з аповесці «Кедры глядзяць на мора», народжанай у выніку паездкі аўтара на ўдарныя камсамольскія будоўлі Сібіры і канчаючы аповесцю «Самы высокі паверх», напісанай на матэрыяле працоўных будняў моладзі Наваполацкага нафтагіганта, пісьменнік нязменны ў сваіх сімпатыях да моладзі, заўсёды верны сваёй тэме — раскрыццю вобраза маладога будаўніка камунізма. Аповесці і раманы А. Савіцкага карыстаюцца заслужанай папулярнасцю ў маладога чытача.**

**Своеасаблівым гісторыкам слаўнага летапісу камсамоліі Беларусі з'яўляецца прафесар, доктар гістарычных навук Анатоль Яфімавіч Жураў. Яго кнігі «У баях народжаны», «Ленін — моладзі» і «Пад кіраўніцтвам партыі» — вынік шматгадовай карпатлівай даследчыцка - публіцыстычнай працы, вынік вялікай любві да моладзі, увагі да яе слаўных баявых і працоўных традыцый. Яго імя таксама ў спісе лаўрэатаў юбілейных камсамольскіх прэмій. Аматарам мастацтва добра вядомы імёны мастакоў Георгія і Наталлі Паплаўскіх, тэмы творчасці якіх цесна звязаны з жыццём і працай моладзі. Званне лаўрэатаў прэмій Ленінскага камсамола Беларусі ім нададзена за мастацкае афармленне падручнікаў, кніг для дзяцей і моладзі, за станковыя графічныя лісты «Брэст 1941», серыю «Памяць» [Г. Паплаўскі], за серыю «Музыка-чарадзей» [Н. Паплаўская].**

**Відаць, няма патрэбы характарызаваць чытачам кінафільм «Іван Макаравіч», які з вялікім поспехам прайшоў па экранах краіны, — фільм пра суровае ваеннае дзяцінства, пра тыя выпрабаванні, якія выпалі на долю савецкіх людзей у іх свяшчэннай барацьбе з фашызмам, пра станаўленне і ўзмужненне юначых характараў, пра ўсведамленне імі свойго абавязку перад народам і радзімай. Стваральнікам гэтага фільма— рэжысёру Ігару Дабралюбаву, аператару Дзмітрыю Зайцаву і мастаку Уладзіміру Дзяменцьеву — таксама прысуджаны прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.**

**Лаўрэатам юбілейнай камсамольскай прэміі стаў і Маладзечанскі ансамбль песні і танца.**

**Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» ад імя сваіх чытачоў горача віншуе лаўрэатаў і жадае ім новых творчых поспехаў, далейшай плённай дружбы з камсамолам, быць яго памочнікамі ў справе камуністычнага выхавання моладзі.**

# НАРАДЖАЕЦЦА СЁННЯ

хітэктараў у праектаванні школ і дашкольных дзіцячых прадпрыемстваў гаварыў Э. Гальдштэйн. Ён адзначыў, што ў апошнія гады школьнае праектаванне значна зменшылася. Архітэктары, якія спецыялізаваліся на праектаванні школьных будынкаў, атрымалі іншыя заданні. А між тым у іх было шмат цікавых ідэй, некаторыя нават былі ўжо вырашаны ў праектах. Сярод першых у краіне беларускія дойліды стварылі праект каркасна-панельных школ. Адны́мі з першых прапанавалі арганізацыю школьнай сеткі і ўстаноў дашкольнага выхавання па новых арыгінальных схемах. Усе гэтыя праекты пакуль што, на жаль, ляжаць на паліцах.

СТАРШЫНЯ праўлення Саюза мастакоў Беларусі В. Грамыка спыніўся на праблемах сінтэзу архітэктуры і манументальнага мастацтва, на пытаннях, якія аднолькава хвалююць як архітэктараў, так і мастакоў.

— У нашай рэспубліцы з вялікай пашанай адносяцца да памяці загінуўшых, —падкрэсліў В. Грамыка.—Можа, якраз таму лепшае, што створана нашымі архітэктарамі і скульптарамі, належыць да мемарыяльнага жанру. Комплекс у Хатыні, Курган славы на 21 кіламетры — гэта назвы беларускіх помнікаў, якія шмат чаго гавораць сэрцу кожнага савецкага чалавека. У рабоце над гэтымі помнікамі архітэктары і скульптары Беларусі яшчэ раз даказалі, што там, дзе мы маем не гутаркі аб сінтэзе і не пустыя пажаданні, а сапраўдную, самаадданую працу, там можна чакаць поспеху. На жаль, не ўсё ў адносінах паміж нашымі саюзамі пабудавана на такім вось аднадумстве.

Мабыць, не трэба яшчэ і яшчэ раз паўтараць, што манументальная скульптура, жывапіс, дэкаратыўнае пано гэтак жа арганізуюць прастору, як і архітэктурныя формы. Узаемадзеянне гэтых кампанентаў — рэч складаная, магчымая толькі пры адначасовым сумесным вырашэнні дойлідамі і мастакамі.

Практыка ж праектавання да гэтага часу такая, што мастак-манументаліст пачынае вырашаць свае задачы толькі тады, калі аб'ект ужо ўзведзены. Зразумела, у такім выпадку гаворка можа ісці толькі пра афарміцельства, ніякім сінтэзам тут і не пахне.

— Кажуць, роля архітэктара аналагічная ролі дырыжора. З гэтым можна пагадзіцца,—гаворыць далей В. Грамыка. —Але я не ведаю ніводнага дырыжора, які б рызыкнуў выступаць адзін, без аркестра. Мастак жа — саліст у тым аркестры, які памагае дырыжору ўвасобіць яго думкі і пачуцці ў нешта матэрыяльнае. Мы, мастакі, упэўнены, што толькі такі шлях супрацоўніцтва і раўнапраўнага партнёрства з першай ідэі і да завяршэння праекта ў матэрыяле можа прынесці сапраўдныя поспехі. Як гэта, дарэчы, і было прадэманстравана на прыкладзе Хатыні і Кургана славы. Толькі пры такім метадзе работы будуць выключаны непаразуменні і злоўжыванні, якія непазбежны, калі адзін з аўтараў выступае ў ролі галоўнага падрадчыка, а другі—падсобніка.

У нас не павінны з'яўляцца пачварныя гібрыды мастацтваў: добрая архітэктура з давескам дрэннага жывапісу, добрая скульптура з давескам дрэннай архітэктуры альбо трэці варыянт — калі ні тое, ні другое не можа задаволіць сваёй якасцю.

За апошні час сумеснымі намаганнямі архітэктараў і мастакоў вырашана нямала інтэр'ераў кафэ, рэстаранаў, палацаў культуры. Сярод іх ёсць нядрэнныя рашэнні, хаця ў цэлым пераважае стандарт дэкаратыўных элементаў з чаканкі, керамічных пано, бутафорскіх сценак з фанеры альбо булыжніку. Між тым магчымасці скульптуры, жывапісу і графікі ў сучасным інтэр'еры не толькі не вычарпаны, а нават па-сапраўднаму не апрабіраваны. Проста на гэтыя віды мастацтва сродкі ў каштарысах не закладваюцца альбо закладваюцца вельмі рэдка.

Вось і атрымліваецца — калі дэкаратыўнае мастацтва мае зараз дастатковае поле ў выглядзе заказаў на афармленне кафэ, рэстаранаў, клубаў, дык манументальны жывапіс, хоць і мае вельмі вялікае грамадскае гучанне, сядзіць на галодным пайку.

І вось яшчэ што... Ці дастаткова мэтанакіравана фарміруем мы горад? Яго аблічча? Ці ведаем, якім нам хацелася б яго бачыць? Відаць, не памылюся, калі скажу, што душа мінчаніна, у якім бы раёне ён ні жыў, належыць цэнтру. І калі ён захапляецца Мінскам, ён захапляецца яго цэнтрам, Ленінскім праспектам, а не Чыжоўкай, напрыклад, хаця згодзен з тым, што там шмат удалых горадабудаўнічых рашэнняў. У чым жа справа? Відаць, у той цеплыні, чалавечнасці ў адносінах да чалавека, якімі вызначаецца цэнтр Мінска і якіх так часта бракуе нашым новым раёнам.

ШМАТ гаварылася на з'ездзе і аб цяжкім становішчы з выхаваннем кадраў маладых архітэктараў, аб дрэннай творчай базе нашых інстытутаў, недастатковай кваліфікацыі некаторых выкладчыкаў Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, не прадуманай як след спецыялізацыі, пры якой у нас амаль не рыхтуюцца спецыялісты па прамысловым, ландшафтным праектаванні.

— Галоўная наша задача, — сказаў В. Анікін,—узняць якасць падрыхтоўкі спецыялістаў адпаведна патрабаванням жыцця. Можна дакладна сказаць, што многія недахопы нашай практыкі звязаны з недахопамі выкладання. Мы яшчэ не рыхтуем архітэктараў, якія б валодалі ўсім комплексам грамадскіх, тэхнічных і мастацкіх дысцыплін. Мы недастаткова развіваем у студэнтаў і методыку комплекснага архітэктурнага мыслення.

В. Анікін заўважыў, што шмат у чым невысокі ўзровень падрыхтоўкі маладых архітэктараў залежыць яшчэ і ад таго, што многія выкладчыкі даўно адышлі ад практычнай праекціровачнай работы, жывуць старым багажом, перадаюць студэнтам не жывы, непасрэдны вопыт, а сухія кніжныя веды. Акрамя таго, дадаў ён, у нас ёсць і такая занядбаная галіна сувязі з жыццём, як удзел у гаспадарчых дагаворах на праектныя работы. Зараз гэта, часцей, навукова-даследчыя заданні, а нам трэба больш праекціровачных, каб маладыя архітэктары яшчэ ў сценах «альма-матэр» паспыталі смак архітэктурнага хлеба.

ГАЛОЎНЫ архітэктар «Белгіпрасельбуда» Г. Заборскі гаварыў пра рост і паляпшэнне якасці праектавання і забудовы сяла.

Мы накапілі вялікі вопыт будаўніцтва на сяле, навучыліся ўлічваць уплыў мясцовых умоў, арганізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці, заканамернасці рассялення, планіроўкі. Гэты вопыт патрабуе абагульнення. У час работы над праектаваннем новых вёсак узнікае своеасаблівы псіхалагічны бар'ер. Уявіце сабе калгасніка, які прызвычаіўся жыць сваім домам, мець свой агарод, хлеў —і раптам мы прапануем яму перасяліцца ў амаль гарадскі дом. Зразумела, гэта выклікае спачатку нейкую адмоўную рэакцыю. Але ў тым і заключаецца наша задача, каб на прыкладах пераканаць селяніна, што ў нашым доме жыць больш зручна.

Г. Заборскі гаворыць, далей, што праектаваць калгасы і саўгасы лепей за ўсё комплексна, улічваючы не толькі жыллё, але і вытворчую базу і ўсё асяроддзе, у якім павінен жыць і працаваць калгаснік. Вось тут і патрэбна майстэрства архітэктара ў поўным сэнсе гэтага слова.

Раней шмат у чым архітэктурнае аблічча вёскі вызначала царква. Яна з'яўлялася дамінантай, арганізоўвала і забудову, і наваколле. Зараз у вёсцы акцэнты памяняліся. Не царква, а клуб выходзіць на першае месца. І мы, архітэктары, павінны ўлічваць гэта. Клуб у вёсцы трэба будаваць па індывідуальным праекце, улічваючы мясцовыя асаблівасці, нацыянальную архітэктурную спадчыну.

Праблемам будаўніцтва новай вёскі прысвяціў сваё выступленне і выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута У. Сакалоўскі. Ён адзначыў, што на сённяшні схемы раённай планіроўкі на сяле складаюцца без дастатковага навуковага абгрунтавання, часцей за ўсё эмпірычна. Каб пазбегнуць недаравальных памылак у сельскім будаўніцтве, прамоўца прапануе паставіць распрацоўку схем раённай планіроўкі ў вёсцы на належны навуковы ўзровень, з правядзеннем шырокага эксперыменту, з выкарыстаннем сучасных матэматычных метадаў прагназіравання, з улікам росту вытворчасці сельскагаспадарчай працы, механаўзброенасці сучаснай вёскі, сацыяльных змен і навукова-тэхнічнага прагрэсу ў сельскай гаспадарцы.

У творчай гаворцы на з'ездзе таксама прынялі ўдзел І. Сядак (Украіна), В. Данілаў, Р. Алымаў (Ленінград), В. Наумава (Казахстан), Н. Афанасьеў, У. Уманец (Малдавія), Л. Левін, З. Азгур, А. Грыгаран (Арменія), Я. Белапольскі (Масква), В. Ладыгіна, А. Мачуліс (Літва), І. Шышкіна (Масква).

ПАДАГУЛІЎ спрэчкі намеснік старшыні Савета Міністраў БССР Ю. Колакалаў. Ён падкрэсліў, што мы маем права ганарыцца тымі зменамі, што адбыліся ў абліччы Мінска, Гомеля, Магілёва. Нарадзіліся новыя гарады — Светлагорск і Наваполацк, Салігорск і Навалукомль, пераўтвараюцца Орша, Жодзіна, Маладзечна, Ліда. Перабудоўваецца наша вёска. У гэтыя вялікія дзяржаўныя справы значны ўклад унеслі і ўносяць архітэктары.

Партыя і ўрад дастойна ацанілі работу нашых дойлідаў. Многім прысуджаны ганаровыя званні, высокія прэміі. Але нам, людзям Краіны Саветаў, не ўласцівы самазаспакоенасць і выхваляннe. Мы не можам жыць толькі сённяшнім днём, задавальняцца дасягнутым. Маштабы, тэмпы, а разам з імі і задачы ў галіне капітальнага будаўніцтва растуць, робяцца ўсё больш шматграннымі. Спатрэбіцца нямала намаганняў, напружанай працы шматтысячнай арміі будаўнікоў, канструктараў, архітэктараў, работнікаў прадпрыемстваў прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, каб паспяхова вырашыць сапраўды грандыёзныя надзённыя задачы...

Прамоўца падкрэсліў, што гэты з'езд і праблемы, узнятыя на ім, паказваюць, наколькі шырокая і шматгранная дзейнасць нашых архітэктараў.

Зараз у прамысловасці і будаўніцтве адна з галоўных задач — тэхнічны прагрэс. Для архітэктараў правільная ацэнка будучыні, улік перспектывы — гэта той жа тэхнічны прагрэс. Менавіта з гэтых пазіцый і павінны яны падыходзіць да вырашэння праблем, што стаяць перад імі. А адна з галоўных праблем — павышэнне эфектыўнасці капітальных укладанняў. Яе вырашэнне ў значнай ступені залежыць ад дакладнага і своечасовага вырашэння горадабудаўнічых пытанняў, звязаных з размяшчэннем вытворчых сіл і рассяленнем насельніцтва на тэрыторыі рэспублікі. Да гэтага часу маюць месца выпадкі няправільнага рашэння размяшчэння прамысловых прадпрыемстваў, асобных будынкаў і збудаванняў.

Мы ўсе разумеем, што выканаць намечаны новым пяцігадовым планам аб'ём мантажна-будаўнічых работ без далейшай інтэнсіфікацыі і стандартызацыі будаўніцтва нельга. Гэта задача вельмі сур'ёзная і рашаць яе павінны ўсе архітэктары рэспублікі, не спасылаючыся на тое, што індустрыялізацыя будаўніцтва, маўляў, перашкаджае творчасці архітэктара, звужае дыяпазон яго пошукаў. Нам патрэбна не стандартная архітэктура пры аднастайнасці канструкцый, а наадварот — стандартызацыя канструкцыі пры разнастайнасці архітэктуры.

ПАСЛЯ заключнага слова В. Аладава адбыліся выбары новага праўлення і рэвізійнай камісіі Саюза архітэктараў БССР, дэлегатаў на V Усесаюзны з'езд архітэктараў.

У новае праўленне Саюза архітэктараў увайшлі: В. Аладаў, В. Анікін, І. Белагорцаў, І. Боўт, А. Воінаў, Э. Гальдштэйн, Ю. Грыгор'еў, А. Данілава, Я. Дзятлаў, В. Емельянаў, Г. Заборскі, У. Ісачанка, У. Кароль, С. Корчык, В. Ладыгіна, В. Ласкавы, Л. Левін, В. Леўчанка, Я. Лінёвіч, В. Малышаў, В. Марокін, Л. Маскалевіч, У. Начараў, Н. Нядзелька, Ю. Патапаў, Л. Пагарэлаў, Г. Сысоеў, М. Сундукоў, Л. Тамкоў, І. Фралоў, У. Чантурыя, В. Чарнышоў, Н. Шпігельман, Ю. Шпіт, В. Шыльнікоўская.

Рэвізійная камісія — Г. Булдаў, А. Гарбачоў, П. Кракалёў, А. Міронава, Н. Трахтэнберг, К. Усцюгаў, Р. Шэлехава.

Прадстаўляць беларускіх архітэктараў на пятым Усесаюзным з'ездзе архітэктараў будуць В. Аладаў, І. Боўт, А. Воінаў, Ю. Градаў, Ю. Грыгор'еў, В. Данілаў, Я. Дзятлаў, Г. Заборскі, У. Ісачанка, А. Карамышаў, У. Кароль, В. Ладыгіна, Р. Лесь, М. Ліўшыц, Ю. Патапаў, І. Фралоў, В. Чарнышоў, Ю. Шпіт.

Адбыўся пленум праўлення Саюза архітэктараў Беларусі. Старшынёй праўлення Саюза архітэктараў выбраны Ю. Шпіт, намеснікамі старшыні — В. Анікін, В. Ладыгіна, Ю. Грыгор'еў. На пасяджэнні рэвізійнай камісіі яе старшынёй выбраны Н. Трахтэнберг.

## Я ІХ БАЧУ Ў ВЯСЁЛУЮ ХВІЛІНУ...



Г. Сысоеў.



Н. Шпігельман.



Л. Пагарэлаў.



С. Баткоўскі.

# ВОЧЫ РАСІІ



*Да сэрцаў мільёнаў і мільёнаў ён прыйшоў праз сваю ранішнюю непасрэднасць, праз сваю чысціню пачуццяў, праз свой першародны давер да чалавека.*

*Людзі адплацілі яму тым жа. Даверам, любоўю, захапленнем.*

*Паэт самых бунтоўных год адлюстраваў з выключнай праматой і чэснасцю пераломны характар Расіі.*

*Як чыстыя вочы Расіі, глядзіць ён і будзе глядзець у душу кожнага з нас.*

*Споўнілася 75 год з дня нараджэння аднаго з выдатных сыноў Расіі. Чытачам газеты «Літаратура і мастацтва» прапаную ў сваім перакладзе некалькі старонак з лірыкі Сяргея Ясеніна.*

Рыгор БАРАДУЛІН.

Сяргей ЯСЕНІН

## ЛІСТ ДА МАЦІ

Ты яшчэ жывеш, мая старая!
Я жывы. Паклон табе, паклон!
Хай над хатай ціха дагарае
Вечаровы свет забытых дзён.

Пішуць мне, што тоіш ты трывогу,
Што табе самотна без мяне,
Што зачаста ходзіш на дарогу
У старым злінялым шушуне.

І табе у прысмеркавым суме
Часта бачыцца усё адно ж,
Быццам нехта мне ў карчомным тлуме
Увагнаў пад сэрца фінскі нож.

Родная, нічога! Супакойся.
Гэта толькі мроіцца ў журбе.
Не такі ўжо горкі я прапойца,
Каб сканаць, не ўбачыўшы цябе.

Па-ранейшаму пяшчоты поўны,
Як жар-птушку, мару пешчу ў снах,—
Каб хутчэй мяне з тугі бунтоўнай
Шлях прывёў пад родны нізкі дах.

Я вярнуся, як раскіне голле
Па-вясноваму наш белы сад.
Толькі ты ўжо ў досвіткавай золі
Не будзі, як восем год назад.

Не будзі таго, што не збылося,
Не хвалюй вярэдліва гады,—
Рана стратамі сустрэла восень,
Выстудзілі сэрца халады.

І маліцца не вучы мяне. Не трэба!
Да старога травянее след.
Воч маіх пагодлівае неба,
Ты адна мой вечаровы свет.

Дык забудзься на сваю трывогу,
Не сумуй задужа пра мяне,
Не хадзі так часта на дарогу
У старым злінялым шушуне.

●

Я не быў ніколі на Басфоры,
Не пытай, як дзень нудзьгуе днём.
Я ў тваіх вачах убачыў мора —
Сінім захлынаецца агнём.

У Багдад не йшоў я з караванам,
Не дарыў табе ні шоўк, ні хну.
Да мяне схіліся гнуткім станам,
На каленях дай я адпачну.

А ці зноўку, колькі ні прасі я,
Клопату няма табе, мой свет,
Што я ў імі сіверным — Расія —
Самы лепшы, дарагі паэт.

У мяне ў душы пяе тальянка,
Бачу месяц — чую мілы брэх.
Хіба ты не хочаш, персіянка,
Бачыць сіні край ласкавых стрэх!

Я сюды прыехаў не з дакукі —
Клікаў край пялёсткавай імглы.
Лебядзіныя сустрэлі рукі,
Абвівалі, быццам два крылы.

Лёс ні хвілі мне не даў спакою,
І хоць дзён мінулых не кляну,
Раскажы мне што-небудзь такое
Пра тваю — ў вясёлках — старану.

Заглушы ў душы тугу тальянкі,
Чараў свежых хай хмяліць павеў.
Каб пра воч паўночныя маланкі
Ні ўздыхаць, ні думаць не хацеў.

Хоць не быў ніколі на Басфоры,
Не схлушу, як дзень нудзьгуе днём.
Вочы нездарма твае, як мора,
Сінім захлынаюцца агнём.

## ПЕСНЯ ПРА ШЧАНЮКОЎ

Ранкам, дзе дрэмле змора
Саломы, рагожных куткоў,
Ашчаніла яна сямёра
Рыжых, сляпых шчанюкоў.

Да вечара яна іх лізала,
Аблашчвала языком,
І дыміўся сняжок падталы
Пад мокрым яе жыватом.

А вечарам, калі куры
Падпечка слухаюць змрок,
Гаспадар выйшаў хмуры,
Сямёра ўсіх паклаў у мяшок.

Доўга бегла па гурбах белых, —
Да ягонай звыкла хады.
І так доўга, доўга дрыжэла
Незамёрзлая роўнядзь вады.

А калі ледзь назад плялася,
Вылізваючы пот з бакоў,
Месячык ёй над хатай здаўся
Адным з яе шчанюкоў.

У сінечу настылую звонка
Скавытала адна ў снягах.
Слізгануўся месячык тонкі,
За пагоркам знік у палях.

Глуха, як ад падачкі няйначай,
Калі каменем кінуць на смех,
Пакаціліся вочы сабачыя
Залатымі зорамі ў снег.

●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●●

Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі з глыбокім жалем паведамляе аб смерці ленінградскага пісьменніка, даўняга добрага друга беларускай літаратуры Паўла Сямёнавіча Кабзарэўскага і выказвае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.

### НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Гэтымі днямі адбылася прэм'ера ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача.

Пастаноўку спектакля па п'есе К. Губарэвіча «Мядовы месяц» ажыццявіла рэжысёр Галіна Кандрашова. Мастак — Іван Пешкур.

На здымку вы бачыце сцэну са спектакля. У ролі Гэлі — Юлія Палосіна, Стася — Віктар Турмовіч.

Вясной 1906 года з Харкава ў Севастопаль нелегальна прыбыла група маладых бальшавікоў для наладжвання рэвалюцыйна-палітычнай работы. Сярод іх былі Мікалай Пальчынскі — «Мацвей», Дзмітрый Басалыга — «Дзіма», Канстанцін Басалыга — «Іван», Мікалай Хрусталёў — «Сямён» і іншыя.

Абставіны ў горадзе вельмі складаныя. У турмах знаходзілася пад следствам больш дзвюх тысяч матросаў Чарнаморскага флоту, які паўстаў у лістападзе 1905 года супраць царскага самаўладства. Сацыял-дэмакратычная арганізацыя бальшавікоў з-за жорсткіх рэпрэсій была вельмі аслаблена, горад быў аб'яўлены на ваенным становішчы.

Аднак Канстанціну Басалыгу і яго таварышам з дапамогай партовых рабочых удалося арганізаваць баявую дружыну, узнавіць Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, наладзіць падпольную друкарню і значна ажывіць рэвалюцыйны рух у горадзе.

Царская ахранка прыкладала ўсе намаганні, каб знайсці бальшавіцкую друкарню газеты «Севастопольский курьер» і разграміць яе. І калі ёй удалося гэта зрабіць, камітэт вырашыў захапіць друкарню і выпусціць чарговы нумар газеты «Солдат».

Захоп друкарні даручылі баявой дружыне па старанна распрацаваным плане.

У прызначаны дзень, раніцай, 12 узброеных дружыннікаў з партовых рабочых занялі ўсе ўваходы і выхады з друкарні.

Група таварышаў на чале з Канстанцінам Басалыгам прад'явіла адміністрацыі патрабаванне: тэрмінова набраць і надрукаваць газету. Усе даведкі па тэлефоне ад імя адміністрацыі давалі дружыннікі. Наведвальнікаў затрымлівалі, ім ветліва прапаноўвалі часова «адпачыць» у асобным пакоі.

Работа ішла паспяхова. Рабочыя і служачыя ахвотна выконвалі «заказ». За шэсць гадзін было надрукавана і вынесена з друкарні пяць тысяч экземпляраў газеты, якія былі паспяхова распаўсюджаны.

Тым часам набліжаўся дзень суда над матросамі крэйсера «Ачакаў» і іншых караблёў. Многія прадстаўнікі судавых каманд выказваліся за ўзброенае паўстанне, мэта якога — вызваленне арыштаваных матросаў. Многа намаганняў бальшавікам давялося ўжыць, каб угаварыць матросаў не пачынаць неарганізаванага паўстання. Замест яго Ваенна-рэвалюцыйны камітэт рашыў зрабіць дзёрзкі налёт на будынак Акруговага ваеннага суда, які змяшчаўся на адной з галоўных вуліц горада, з мэтай захопу следчых матэрыялаў. Правесці гэту аперацыю было даручана «Мацвею» — Пальчынскаму, «Івану» — Басалыгу і «Сямёну» — Хрусталёву.

Пасля стараннага вывучэння абстаноўкі, высветлілася, што к 12 гадзінам ночы ваенныя патрулі сцягваліся на плошчу горада, каб строем ісці ў казармы. Вуліцы на паўгадзіны пусцелі, пакуль з'яўлялася змена.

Праз спачуваючага прысяжнага даверанага ўдалося ўстанавіць план будынка суда і дзе стаіць шафа з судовымі дакументамі.

У прызначаны вечар былі падрыхтаваны баевікі і рамізнік-ліхач на пары коней.

А першай гадзіне чэрвеньскай ночы, калі ланцуг салдат знік з плошчы, да будынка суда пад'ехаў фаэтон.

Узброіўшыся браўнінгамі, чацвёра падышлі да дома. Два баевікі засталіся на вуліцы дазорнымі. «Мацвей» у форме тэлеграфіста хутка накіроўваецца да парадных дзвярэй суда. Звоніць... Мінуты праз дзве за дзвярыма чуецца голас:

— Хто там?

— Прыміце тэрміновую тэлеграму пану старшыні суда. — адказаў «Мацвей».

Дзверы павольна адчыніліся. У будынак уляцелі чацвёра. Вартаўнік звязаны, у роце кляп. Ля дзвярэй з рэвальверам баявік. Астатнія імкліва кінуліся наперад, перарэзаўшы на хаду тэлефонны провад. Замок шафы ўзламаны, хутка вынесены тоўстыя папкі са справамі і рэчавымі доказамі — рэвалюцыйнымі сцягамі паўстаўшых. Замкнуўшы дзверы суда, падпольшчыкі селі ў фаэтон і памчаліся па вуліцах горада да Балаклавы. На кожным кроку іх чакала небяспе-



Такім быў Канстанцін Басалыга ў маладыя гады.

НА ЗДЫМАЧНЫХ ПЛЯЦОЎКАХ

## ЧЫРВОНЫЯ Д'ЯБАЛЯТЫ

...Надвячорак. Ціішыня. Раптам загуў матор, пачулася страляніна. Нібы раз'юшаны звер, на луг выскоквае зялёная амфібія з жоўтымі плямамі маскіроўкі па бартах. Машына імчыць напрасткі, набірае хуткасць, жоўтыя плямы зліваюцца ў суцэльную рудаватую паласу. За рулём — хлапчук, побач, з аўтаматамі, яго сябры. Хлапчукі захапілі нямецкую машыну і ўцякаюць з палону. За імі на матацыклах гоняцца фашысты. Хлапчукі смаляць ва ўсю з аўтаматаў.

Машына набліжаецца да Нёмана. Справа і злева — лес. Ёсць толькі адно выйсце — фарсіраваць раку. Амфібія сходу ўразаецца ў ваду. Коцяцца за бартамі хвалі. У гэты момант барвовае зарава ахоплівае паўнеба— узрываецца склад боепрыпасаў. Гэта таксама работа юных партызан. Па чырвонай вадзе плыве амфібія да берагу. Наперадзе цямнее лес. Там — партызаны...

— Стоп! Паўторым яшчэ разок! — чуецца далёкая каманда.

Дзёрзкія ўцёкі на амфібіі —гэта сцэна з фільма «Пяцёра адважных», які здымае на студыі «Беларусьфільм» рэжысёр Леанід Мартынюк па сцэнарыі Алеся Асіпенкі.

Зноў гудзе матор. Апаратар Юрый Шалімаў прывязваецца да парэнчаў амфібіі. Здымкі працягваюцца...

У час перапынку гутару з рэжысёрам.

— Фільм наш прыгодніцкі. Рамантызацыя карціны апраўдваецца тым, што ў аснове стужкі расказ хлапчука пра подзвігі свайго бацькі і яго сяброў у час Вялікай Айчыннай. Ну і, вядома, дзіцячая фантазія трохі перабольшвае, падмалёўвае рэальныя падзеі. Героі фільма — дзеці. Чатыры хлопчыкі і дзяўчынкі. Батальных сцэн не шмат. Дзецям даводзіцца страляць, але яны не мілітарысты. Трупы не валяцца направа і налева... Здымкі ўжо набліжаюцца да канца. Так што неўзабаве можна будзе паглядзець, што ў нас атрымаецца...

Трэба адзначыць, што фільм «Пяцёра адважных» — работа дэбютантаў. Гэта дэбют у кіно пісьменніка Алеся Асіпенкі, кампазітара Льва Абеліёвіча, аператара Юрыя Шалімава, мастака Уладзіміра Ароніна, урэшце, гэта першая стужка для дзяцей Леаніда Мартынюка.

Да дэбютантаў можна далучыць і маладога артыста, выпускніка Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Юрыя Рашэтнікава. Здымаюцца ў карціне таксама народная артыстка рэспублікі Стэфанія Станюта, Павел Кармунін і іншыя.

Але галоўныя выканаўцы — дзеці: мінскія школьнікі Таня Шчыгельская, Косця Лянеўскі і Саша Прымака, хлопчык з Літвы Райма Баніёніс, які здымаецца разам з бацькам— вядомым літоўскім артыстам Данатасам Баніёнісам, масквіч Лёня Шапялёў.

...Мы сядзім на беразе Нёмана з Таняй Шчыгельскай. У юнай артысткі— Таня яшчэ шасцікласніца — тонкія касічкі з вялікімі белымі бантамі, сінія-сінія, як першыя пралескі, вочы.

# РЭВАЛЮЦЫЯЙ МАБІЛІЗАВАНЫ

**В. МАРУТКА,**
загадчык аддзела Дзяржаўнага музея Беларускай ССР.

**Здавалася, даўно прачытаны старонкі рэвалюцыйных бітваў у Расіі, высветлена ўсё, што мела адносіны да тых бурных дзён, падзей, подзвігаў.**

**Але настойлівыя пошукі адкрываюць новыя факты, новыя імёны.**

**Вось і зараз, у год ленінскага юбілею, намаганнямі навуковых супрацоўнікаў Дзяржаўнага музея Беларускай ССР знойдзены матэрыялы пра подзвігі бальшавіка-беларуса К. М. Басалыгі.**

**Хто ж такі Басалыга? Чым ён прыцягвае да сябе нашу ўвагу.**

**Канстанцін Мікалаевіч Басалыга (1887—1963) нарадзіўся ў вёсцы Варковічы Слуцкага павета Мінскай губерні. Калі ён скончыў сельскую школу, старэйшы брат узяў яго ў Харкаў і ўладкаваў у рэальнае вучылішча. Займаючыся ў сацыял-дэмакратычным гуртку, Канстанцін пазнаёміўся з бальшавіком «Арцёмам» — Фёдарам Андрэевічам Сяргеевым.**

**Увосень 1906 года Канстанцін Басалыга—«Іван»—разам з Арцёмам і сваім братам Дзмітрыем быў накіраваны на Урал для работы ва Уральскай партарганізацыі.**

**З'яўляючыся членам Уральскага абласнога камітэта партыі, К. Басалыга па даручэнні Арцёма выязджаў ва Усолле Верхне-Камскага раёна для выбрання У. І. Леніна дэлегатам на V Лондалскі з'езд партыі. На Лонданскім з'ездзе Басалыга ўпершыню сустрэўся з У. І. Леніным і меў з ім гутарку. Пасля з'езда працаваў у Адэсе, Краснадары, адкуль у адміністрацыйным парадку быў высланы ў Омск, дзе актыўна ўдзельнічаў у Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі і ў падзеях Вялікага Кастрычніка. Потым барацьба з разрухай, голадам, працяглая хвароба.**

**У пачатку Вялікай Айчыннай вайны ўступіў у народнае апалчэнне ў Севастопалі. Удзельнічаў у баях з фашысцкімі войскамі, быў кантужаны, пасля эвакуіраваны ў Стаўрапаль. Тут К. Басалыга працаваў на гаспадарчай і культурна-асветнай рабоце.**

**Гэта асобныя вяхі жыцця Канстанціна Мікалаевіча. Але за кожнай з іх, за кожным паваротам складанай і цяжкай дарогі барацьба, барацьба за заўтрашні светлы дзень.**

ка. На ўскраінах горада — заставы, якія маглі затрымаць пры любым падазрэнні.

Праехаўшы кіламетры два ад заставы, крута павярнулі ўбок, спыніліся, знялі «багаж» і адпусцілі «ліхача». А судовыя справы, зваліўшы ў кучу і абліўшы газай, падпалілі...

Раніцай стала вядома, што праз некаторы час пасля налёту на будынак суда вярнуўся з гулянкі другі вартаўнік. Колькі ні стукаў, ніхто не адчыняў яму дзвярэй. Узламаўшы акно, улез, і аслупянеў, убачыўшы звязанага вартаўніка. А калі пра ўсё даведаўся, кінуўся званіць у паліцыю.

Хутка ў суд прыехалі ўсе самыя высокія чыны Севастопаля. І таксама ахнулі.

— Будзем судзіць усіх без следчых спраў, — прахрыпеў адзін з іх...

А па горадзе разносілася вестка аб выкраданні судовых спраў паўстаўшых матросаў. Радаваліся ачакаўцы, якія сядзелі ў турме. Яны вывесілі ў акне турмы чырвоны сцяг. Радавалася працоўнае насельніцтва Севастопаля.

Як шалёныя, мітусіліся шпікі. Пагалоўныя вобыскі па ўсім горадзе. Бальшавікам, членам ваеннай арганізацыі, пагражала смяротная небяспека, і яны паспешліва пакінулі горад. А суд над рэвалюцыйнымі маракамі быў адкладзены. Яго правялі праз тры месяцы, грунтуючыся на розных запісках, якія выпадкова засталіся ў руках следчых...

□

Ішоў 1907 год. Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя Расіі рыхтавалася да свайго пятага з'езда. Праходзілі нелегальныя сходы, выбіралі дэлегатаў. Уральскі абласны камітэт партыі, які ў той час узначальваў мужны бальшавік Арцём, вынес рашэнне правесці дэлегатам на з'езд Уладзіміра Ільіча Леніна ад адной з партыйных арганізацый Урала.

Гэту адказную работу Арцём даручыў свайму вернаму вучню і таварышу Канстанціну Басалыгу. Лёс іх зноў звёў, на гэты раз на Урале.

— Паедзеш ва Усолле для выбрання Уладзіміра Ільіча дэлегатам на з'езд, — сказаў Арцём Канстанціну. — Мы будзем прасіць Ільіча даць сваю згоду быць дэлегатам з'езда па нашым мандаце.

Можна сабе ўявіць, як усхвалявала маладога рэвалюцыянера такое даручэнне.

Усолле. Старыя, нізкія домікі, баракі.

Яўка. Гледзячы гаспадару ў твар, Канстанцін вымаўляе пароль.

— Я ад Івана Пятровіча.

— Пятроў хутка прыйдзе, — адказвае гаспадар...

У мэтах канспірацыі вырашылі праводзіць сходы ў дамах рабочых па 10—15 чалавек.

На ўсіх сходах усольскія саляВары аднагалосна выбралі Леніна. На чацвёртыя суткі, позна ўначы, Канстанцін з дарагімі дакументамі ў кішэні выехаў у Екацярынбург. З вакзала Канстанцін паехаў на явачную кватэру, каб у абласным камітэце здаць пратаколы сходаў і заверыць мандат Ільіча.

...Канстанцін узышоў па лесвіцы, ціха адчыніў дзверы кватэры, глядзіць: ля стала вялікая канапа, на канапе разваліўся прыстаў, а па баках — двое гарадавых. Канстанцін выскачыў у двор, чуючы ззаду грукат каваных ботаў гарадавых.

— Стой! Стой! Страляць будзем!

Канстанцін кінуўся да плота, падскочыў, учапіўся за верхнюю дошку, падцягнуўся... але сарваўся і грукнуўся на зямлю. А гарадавыя былі ўжо побач. Сабраўшы ўсе сілы, зноў скочыў на плот, падцягнуўся і пераляцеў у двор суседняга дома. Яшчэ мінута—і ён ужо на нейкай ціхай вулачцы. Зайшоў у пусты двор, прывёў сябе ў парадак і, пераканаўшыся, што мандат на месцы, спакойна рушыў па людной вуліцы.

Афармляючы мандат у гарадскім камітэце, Басалыга даведаўся, што ў яго адсутнасць Арцём быў арыштаваны. Гэта вестка ўстрывожыла маладога рэвалюцыянера. Яны ж разам павінны былі ехаць дэлегатамі на з'езд. Як жа цяпер быць? Што рабіць з мандатам Ільіча?

У камітэце прапанавалі неадкладна выехаць самому ў Пецярбург, каб у час даставіць мандат Уладзіміру Ільічу.

У Пецярбургу дабраўся да явачнай кватэры Лядава, але дома яго не застаў. Жонка паведаміла, што Лядаў ужо даўно выехаў за граніцу на з'езд.

Даведаўшыся, што Канстанцін прывёз мандат для Уладзіміра Ільіча, яна захвалявалася.

— Што рабіць? Мы чакаем у сябе вобыску, а зараз ужо позна, цяжка каго-небудзь знайсці.

— Давядзецца начаваць у вас, толькі мандат прашу схаваць як мага лепш, — ціха сказаў Канстанцін.

На шчасце, ноч прайшла спакойна, а мандат раніцай «па ланцужку» быў перададзены ў ЦК для адпраўкі па адрасе.

На наступны дзень Басалыга, пад клічкай «Дальні», поездам выехаў у Фінляндыю, дзе з'ездаўскі сувязны пасадзіў яго на замежны параход, які ішоў у Стакгольм.

— Ні з кім не гаварыце, таварыш Дальні, пакуль вы ў рускіх тэрытарыяльных водах. Могуць арыштаваць, — вучыў сувязны. — Майце на ўвазе, што апрача вас на параходзе едуць на з'езд яшчэ некалькі дэлегатаў.

Па дарозе разгаварыліся, пазнаёміліся. Ледзь сышлі на бераг, як да іх падышоў чалавек у цыліндры і на ламанай рускай мове запытаўся:

— Вы рускія? Прыехалі на партыйны з'езд? Праз дваццаць чатыры гадзіны вы абавязаны пакінуць Швецыю, інакш будзеце выдадзены рускім уладам.

Выехалі ў Капенгаген. Аказалася, што і дацкі ўрад, атрымаўшы пратэст міністэрства замежных спраў Расіі, не дазволіў праводзіць з'езд у Даніі. Працягваў сваю работу з'езд у Лондане.

Даведаўшыся аб прыездзе на з'езд новай групы дэлегатаў, У. І. Ленін выказаў жаданне сустрэцца з ёй. Доўга гутарыў, цікавіўся, распытваў...

— Як даехалі? Ці не было арыштаў на граніцы? Які настрой у рабочых?

Адказваючы на пытанні Ільіча, Басалыга паведаміў:

— Я прывёз вам, Уладзімір Ільіч, мандат на з'езд ад уральскай партарганізацыі Усолля. Таварышы, галасуючы за вас, вельмі прасілі быць іх дэлегатам.

Канстанціна тут жа падтрымалі таварышы з Урала.

— Добра, абмяркуем гэта пытанне, — адказаў Уладзімір Ільіч. — Я ўжо маю некалькі выбранняў. Калі можна будзе перадаць астатнія мандаты іншым таварышам, я прыму вашу прапанову.

І ў гэты час званок паклікаў дэлегатаў у залу. Усе заспяшаліся на пасяджэнне.

Лёгкай хадой па прыступках узнімаўся на трыбуну Ленін. Ён пачаў сваю прамову...

На наступны дзень стала вядома, што У. І. Ленін зарэгістраваўся на з'ездзе па мандаце ад Верхне-Камскай (Усольскай) партыйнай арганізацыі бальшавікоў.

Перад ад'ездам з Лондана Канстанцін і яго брат Дзмітрый з групай уральцаў папрасілі ў Уладзіміра Ільіча дазволу зайсці да яго на кватэру развітацца і пагаварыць. Уладзімір Ільіч ахвотна даў свой адрас.

І калі ў гутарцы Дзмітрый Басалыга расказаў пра тое, як група бальшавікоў ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Севастопаля друкавала газету «Солдат» і як арганізавалі выкраданне з залы суда следчых матэрыялаў па справе паўстаўшых матросаў Чарнаморскага флоту, Уладзімір Ільіч з захапленнем сказаў:

— Аб гэтым, бацені, трэба абавязкова напісаць артыкул.

Паехаў з Лондана Канстанцін, акрылены ідэямі Ільіча і натхнёны на новыя справы і подзвігі ў імя свабоды і шчасця працоўных. І зноў падполле, зноў барацьба...

# АПОШНЯЙ ВАЙНЫ



— Першы раз здымаюся... Спачатку баялася. А потым асмялела, нават з кулямёта страляла... — пахвалілася яна. — Ці буду артысткай? Не ведаю. Маці адно кажа: «Не запускай вучобу. Кіно —гэта часова». Мы тут вучымся, у Навагрудку. І дрэнных адзнак у нас няма.

Побач сядзіць з вудай Саша Прымака. Паплавок нерухома застыў, і таму на пытанні Саша адказвае з задавальненнем.

— Мне падабаецца здымацца. Асабліва цікава ездзіць на амфібіі. Калі б сёння не было сонца, дык ужо б здымалі. А так будзем сядзець да вечара. Нам патрэбны прыцемкі... Затое мо хоць акунька якога спаймаю...

Трохі воддаль бялее галава Лёні Шапялёва. Ён рыбачыць разам з «нямецкім» матацыклістам.

— Гэта мая другая роля ў кіно. Першая была ў фільме «Злачынства і пакаранне», — важнічае Лёня. — Я па фільме — Лёва. Гэта мяне выратоўваюць з палону на амфібіі...

...Здымачная група вярнулася ў Навагрудак позна вечарам. Неўзабаве на дошцы аб'яў ужо вісела заданне на наступны дзень.

**Л. ЛЯВОНАЎ.**

Фота В. БАРАНАВА.

**ВОДГУКІ, АДКАЗЫ**

## БУДЗЕ Ў ЛЯЎКАХ МУЗЕЙ

**20 сакавіка гэтага года ў нашай газеце быў змешчаны артыкул В. Рабкова «Цвіце вясной тут сіні сон...», у якім ставілася пытанне аб тым, што наспела пара аднавіць у Ляўках дачу Янкі Купалы і стварыць там філіял літаратурнага музея паэта. Артыкул быў накіраваны для рэагавання ў Віцебскі абком партыі. Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі абкома партыі П. Пазнякоў паведамляе ў рэдакцыю: «Пытанні, узнятыя ў артыкуле В. Рабкова «Цвіце вясной тут сіні сон...», былі старанна вывучаны ўпраўленнем культуры аблвыканкома, Аршанскім РК КПБ і райвыканкомам і прапановы ўнесены на разгляд выканкома абласнога Савета дэпутатаў працоўных. 31 жніўня г.г. прынята пастанова Віцебскага аблвыканкома (№ 312) «Аб аднаўленні дома народнага паэта Беларусі Янкі Купалы ў в. Ляўкі Аршанскага раёна і стварэнні філіяла літаратурнага музея», якой прадугледжана на працягу 1971 года закончыць усе работы па аднаўленні дачы Я. Купалы ў вёсцы Ляўкі. Упраўленню культуры аблвыканкома даручана ўвайсці з хадайніцтвам у Міністэрства культуры БССР і Саюз пісьменнікаў БССР аб стварэнні ў Ляўках філіяла літаратурнага музея Янкі Купалы».**

## КРЫТЫКА ПРЫЗНАНА ПРАВІЛЬНАЙ

**Упраўленне культурна-асветных устаноў Міністэрства культуры БССР паведамляе, што факты, выкладзеныя ў карэспандэнцыі Л. Лявонава «Хачу быць дырэктарам...», якая надрукавана ў газеце «Літаратура і мастацтва» 28 жніўня г. г., мелі месца.**

**Выступленне газеты абмяркоўвалася ў Маладзечанскім гарадскім аддзеле культуры. У Міністэрстве культуры БССР адбылася гутарка з начальнікам Мінскага абласнога ўпраўлення культуры В. Васільевым і загадчыцай Маладзечанскага гарадскога аддзела культуры Т. Сяргеевай. Зараз прымаюцца захады, каб укамплектаваць кадрамі Маладзечанскі гарадскі Дом культуры. М. Бараш выехаў на новае месца работы. Абласное ўпраўленне культуры вырашае пытанне аб уладкаванні на работу В. Пацыенкі.**

**Абласному ўпраўленню культуры ўказана на тое, што трэба больш прынцыпова, патрабавальна і чула адносіцца да кадраў.**

**Ж. СІНЕЛЬНІКАВА,**
начальнік упраўлення культурна-асветных устаноў Міністэрства культуры БССР.

 СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# У СТРОЙ СТАНОВЯЦЦА МУЖНЫЯ

ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ, якія прайшлі з баямі ад Масквы да Берліна, для тых, хто зведаў дні фашысцкай акупацыі, самым цяжкім перыядам у жыцці, застаецца ваеннае ліхалецце.

Усевалад Мігай у шаснаццаць гадоў стаў салдатам, воінам-добраахвотнікам, абаронцам роднай зямлі ад фашысцкай навалы. Быў кантужаны, змяты гарматай пры разгрузцы воінскага эшалона, але дайшоў да Берліна.

Ды не вайна, а перыяд з мая 1944 па кастрычнік 1967 года стаў для Мігая самым цяжкім— перыяд вяртання ў строй. Перажытае за гады вайны азвалася ў целе цяжкай хваробай, прыкавала да пасцелі. Шпіталі, шпіталі... Спробы вярнуцца ў строй...

За што толькі ні браўся ён: працаваў кінамеханікам, плёў кошыкі з лазы, аўсянай саломкай абклейваў шкатулкі, займаўся шавецкай справай, маляваў афішы для клуба, шмат чытаў — абы не быць без справы, не адчуваць адзіноты. І быў час — не стрымаўся, сарваўся: запіў. А ў такім разе адразу ж і «сябры» знойдуцца — сябры да той пары, пакуль у чарках ёсць гарэлка.

Але былі ў Мігая і іншыя сябры — сапраўдныя. Гэта — франтавая сяброўка Маруся, якая стала вернай спадарожніцай на ўсё жыццё; скалечаны вайной, пазбаўлены найдаражэйшага — магчымасці бачыць свет, сусед па шпітальным ложку Коля, начальнік Парыцкага аддзялення сувязі Фёдар Дудко, дырэктар клуба Сямён Гарэлік, малады рабочы хлопец Гена Маеўскі, ваенны марак Саша Процкі, брыгадзір цэха лазовых вырабаў прамкамбіната Саня Кахно, камсамольскі работнік, а затым журналіст Гарык Далгіцкі і многія іншыя.

Былы аднакласнік Саша Процкі параіў Мігаю: «Паспрабуй пісаць што-небудзь. Як Астроўскі. Хлопец ты кемлівы, атрымаецца!»

Першая невялічкая заметка ў раённай газеце прымусіла «пахлапечы захлынацца ад шчасця». Здаецца, знойдзецца цікавая і карысная справа. За работу! «Цэлымі днямі страчу карэспандэнцыі. Адпраўляю іх у рэдакцыі газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Чырвоная змена», «Гомельская праўда». А радавацца няма чаму. З рэдакцый прыходзяць несуцяшальныя адказы: «Ваш матэрыял надрукаваць не можам».

Значыць, трэба вучыцца, тым больш, што за плячыма ўсяго шэсць класаў. Новая справа — і новыя сябры: яго школьнымі настаўнікамі становяцца суседскія хлопчыкі, зразумець сакрэты газетных жанраў дапамагаюць прафесіянальныя журналісты Сяргей Прач, Эдуард Сушкевіч, Ісак Баравік, Георгі Блізнюк, Гарык Далгіцкі, Зоя Зайцава, паэт Сяргей Дзяргай, пісьменнік Міхась Даніленка і іншыя. Шмат чаму навучылі і тыя, з кім ніколі не даводзілася і не давядзецца ўжо сустрэцца, — людзі, блізкія па лёсу: прыкаваны да ложка былы ваенны лётчык, паэт Іван Шамаў і аўтар вядомага рамана «Чайка» Мікалай Бірукоў.

Прайшло чатыры гады настойлівай вучобы, бясконцых пошукаў. І вось Усевалад Мігай становіцца членам Саюза журналістаў СССР, яго карэспандэнцыі, замалёўкі, нарысы пастаянна з'яўляюцца не толькі ў раённым, абласным і рэспубліканскім друку, — яго допісы рэгулярна змяшчае газета «Известия». Дарэчы адзначыць, што ў апошні час «Известия» двойчы прэміравала свайго актыўнага рабселькора Мігая за лепшыя нарысы аб людзях..

Настойлівасць на шляху да пастаўленай мэты заўсёды прыносіць перамогу. Сёння перад намі ўжо кніга Усевалада Мігая «Зноў у страі». Кніга напісана ў выглядзе дзённіка, але гэта не дзённік — гэта хвалюючая аповесць пра перажытае, пра дні самаадданай барацьбы за вяртанне ў строй, за тое, каб быць карысным людзям, пра сяброў — сапраўдных і бескарыслівых, пра высокія маральныя якасці савецкага чалавека — чалавека няўрымслівай і крыштальна-чыстай душы, мужнага сэрца, дапытлівага розуму.

Ёсць у кнізе У. Мігая такія словы: «Заўсёды цягне да чалавека, лёс якога блізкі твайму ўласнаму». Яму пішуць многія і адусюль. За пісьмамі паўстаюць вобразы людзей, даўно пераканаaных, што ўжо ніякія дактары ім не дапамогуць, аднак хоць бы адзін з іх раскіс, расхныкаўся, — у кожнага зайздросны аптымізм: толькі наперад, толькі змаганне; будні, абмежаваныя пасцеллю і чатырма сценамі, — прэч, шырэй рамкі ў свет, далей і праніклівей позірк — такі іх дэвіз. Людзі мужныя, людзі нязломнай волі і пяшчотнай дабраты, салдаты пярэдняга краю, байцы наступальнай гартоўкі, — такімі мы бачым з кнігі Ніну Вішнякову, Івана Шамава, Лію Адэгаву, Івана Сляпцова, Аляксея Зайцава, Рыту Дзянісаву і іншых. Іх вобразы такія ж запамінальныя, як і вобразы бацькі, бабулі, жонкі Марусі, пенсіянера Рыгора Рыгоравіча Новіка, членаў брыгады камуністычнай працы Марыі Яфрэменкі з Мінскага мотавелазавода.

Аўтар кнігі «Зноў у страі» піша проста, лаканічна, кожная фраза ў яго глыбока прадумана.

Усеваладу Мігаю не хочацца, каб бачылі іншыя, што яму цяжка. «Калі ўпаду ды хто-небудзь у мой бок гляне, раблю выгляд, што пераабуваюся». Такія ж і яго франтавыя сябры. «У аднавокага Васіля Грачова адна з куль у лёгкіх засела. Працуюць моўчкі, гнеўна нават, а адпачнуць — пра каханне гавораць, па мірнай працы ды вучобе сумуюць».

У сям'і Мігаёў нарадзілася дачка. «Старэйшая сястра Марусіна загінула ў засценках гомельскага гестапа. Звалі яе Таняй. І мы сваю дачку Таняй назвалі. Дзед Пашкевіч параіў у гонар яе нараджэння пасадзіць у нашым агародзе грушу. Пасадзілі дзве». Нарадзіўся сын. «Сына назвалі Жэнем, імем майго бацькі, які загінуў на фронце. Дзед Пашкевіч напомніў нам, шчаслівым, што нядрэнна б яблыньку вясной пасадзіць. Дзве пасадзілі!»

І вытрымка з пісьма: «Думаецца мне, што толькі музыка можа выразіць тое пачуццё, якое ўзнікае ва мне, калі я ў думках кранаюся тэмы кахання ў нашым становішчы».

Упэўнены, кнігу Усевалада Мігая прыхільна сустрэне чытач. Яна цікавая і ў многім павучальная, яна поўная мужнага аптымізму, такога, як вось у гэтых заключных радках: «Працягваем любіць і ненавідзець, змагацца і перамагаць, пакутваць і радавацца — працягваем жыць... Сёння камуністы І. Каяфюк, С. Прач і Г. Далгіцкі далі мне свае рэкамендацыі ў партыю Вялікага Леніна».

І. КІРЭЙЧЫК.

У. Мігай. «Зноў у страі». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1970.

# СЦЕЖКА ДА ЖЫВОЕ КРЫНІЦЫ

«Павячэраўшы свежай духмянай юшкай, якую Пракоп згатаваў па адмысловаму рэцэпту, мы прылеглі каля ярка палаючага вогнішча...»

Прачытаеш такое і — нешта даўно забытае варухнецца ў душы, запахне дымком, рэчкаю, туманам, адчуеш у нагах лёгкую стому, быццам засынаеш з адчуваннем, што заўтра зноў будзе летні світанак, неспакойнае чаканне над паплаўком, заранка ў густым кусце ракіты...

Не ведаю, як хто, а я зайздрошчу людзям, якім пашанцавала доўгі час жыць сярод лесу, бываць на паляваннях і рыбалках, а яшчэ больш тым, хто ўмее таленавіта і добра расказаць пра ўбачанае людзям, хто нястомна вучыць нас бачыць і любіць прыроду. Нельга не застацца ўдзячным ім за тое светлае, чаму навучылі іх кнігі — кнігі пра вялікую дабрату і любоў чалавека, без якое ён ніколі не будзе шчаслівы.

Вось з такой удзячнасцю чытаў я і кніжку Уладзіміра Ляўданскага «Ноч над Нёманам», у якой ён проста і хораша расказвае пра ўбачанае ў лясах і на берагах рэчак, нястомна вучыць нас вялікай любові да жывога.

У зборніку вылучаюцца замалёўкі аб прыродзе, у якіх яна, як і ў большасці апавяданняў, галоўны герой. Падкупляе ў замалёўках прастата, шчырасць і даверлівасць, тонкасць назірання. Калі чытаеш іх, становіцца радасна ад таго, што даведаўся шмат новага, стаў багацей душой. Даведваешся пра дзіўную прыгожую птушку івалгу («Спявак-прыгажун»), пра ўдалага рыбалова скапу («Крылаты рыбак»), пра крыжадзюбаў («На лыжнай прагулцы»), пра белую саву («Белы цуд»). Здзівішся — як гэта не ведаў дасюль, што такі, здавалася б, непаваротлівы звер бабёр можа адолець воўка («Мёртвая хватка»), пазайздросціш аўтару, што ўдалося яму ўбачыць, як ліс, каб адолець вожыка, засыпае яго пяском («Пад старым дубам»), бо толькі і ведаў, што ў такіх выпадках лісы коцяць вожыка да вады.

А колькі карысці прынясуць гэтыя апавяданні дзецям.

Многа вялікай цеплыні, перажытага, блізкага ўкладзена ў апавяданне «Сэрца чалавека». З гадамі можна зразумець, нават прыняць суадноснасць, часовасць многіх паняццяў, але заўсёды застаюцца вечнымі дабрата, і чэснасць, і вялікае, ніколі не вынішчальнае ў чалавеку пачуццё любві да жывога, да жыцця, бо вечным шчасцем для чалавека было і будзе падняць у траве бездапаможнае цельца птушкі, каб потым падняўся ў неба моцны і шчаслівы птах.

Праўда, не ўсе апавяданні, сабраныя ў кнізе, вытрыманы на адным узроўні. Надуманым, нежыццёвым выглядае апавяданне «Ля рыбацкага вогнішча». Не ўдалося, на мой погляд, і апавяданне «У засадзе». Пачатак яго цікавы, але гумарыстычная развязка не падрыхтавана, у канцоўцы няўдала паўтараецца гісторыя Сысоя Сысоевіча — проста крыўдна за аўтарскі промах.

Хочацца папракнуць аўтара і за моўныя агрэхі. Ён піша: «цецярук пайшоў колам» (пошел колесом?), «на лесніцоўцы» (гэта значыць, на хаце лесніка?). І яшчэ. Трэба больш давяраць чытачу, не «разжоўваць» вывады. Тады не было б і такіх канструкцый, як «...павялі нетаропкую гаворку аб тым, якое значэнне мае для чалавека прырода, які вялікі ўплыў яна робіць на яго». Як усё гэта па-газетнаму прасталінейна і сумна. На жаль, агрэхі такога парадку сустракаюцца даволі часта.

Аднак усё ж загортваеш апошнюю старонку кнігі з добрым шкадаваннем, з радасцю, што гэтыя старонкі перагорнуцца не адным рукамі, што многа добрага прынясуць яны людзям, дапамогуць зразумець простую ісціну, якую даўно зразумеў маленькі прынц Экзюперы: замест таго, каб з'есці пілюлю, якая замяняе ваду, лепш за зберажоны час схадзіць да жывое крыніцы.

А. ЖУК.

Уладзімір Ляўданскі. «Ноч над Нёманам». Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1969 г.

# «І ДА НАШЧАДКАЎ ВЕРНЕМСЯ...»

Кажуць так: «Залаты ў чалавека той час, калі можна думаць пра што хочаш і шчыра гаварыць пра тое, аб чым думаеш». У мастака такі час павінен быць заўсёды. Талент, які губляе шчырасць, нагадвае фальшывамонетчыка. І колькі б ён ні карпеў над сваімі рэчамі, прыйдзе час—падробка выявіцца. Быць шчырым — гэта таксама мужнасць. І глыбіня нашых суперажыванняў залежыць ад праўдзівасці пачуццяў і глыбіні іх адлюстравання ў творы, з якім давялося сутыкнуцца.

М. Маляўка не хавае сваіх дум, трывог, нават сумненняў, не баіцца паказацца наіўным ці праставатым перад чытачом, нашым сучаснікам, хоць у яго, па аднадушным сцвярджэнні даследчыкаў, «значна вырас агульнаадукацыйны ўзровень і мастацкі густ». І гэта добра. Лірычны герой вершаў паэта ўвесь у дзеянні, у свядомым імкненні ўздзейнічаць на рэчаіснасць, у пошуках адвечных ісцін. «Усё часцей над рэчамі звычайнымі ламаю галаў, як над тайнамі...» — прызнаецца паэт у вершы, якім пачынаецца кніжка.

М. Маляўка мае схільнасць да рамантычнага асэнсавання рэчаіснасці. Шчыра кажучы, мабыць, не знойдзецца ні аднаго мастака, які б не «хварэў» на рамантызм. Рамантызм шмат якіх вершаў М. Маляўкі з кнігі «Жалеза» носіць псіхалагічны характар, паэт разглядае лірычнага героя ў абставінах, калі найбольш поўна выяўляюцца духоўныя якасці гэтага героя, яго грамадзянская пазіцыя.

> У нас
> У крыві юначай
> Багата жалеза, няйначай.
> І мускулы ў нас —
> Як з-пад прэса:
> Не мускулы,
> А жалеза.

Гэтыя радкі з верша «Жалеза» нарадзіліся невыпадкова. Іх як бы выспелілі думы, трывогі, перажыванні паэта, што пульсуюць у папярэдніх вершах — «Рамантыка», «Я дажыў...», «У грузчыкаў быт суровы» і інш.

Шмат якім нашым паэтам непасрэдны іхні ўдзел у стваральнай працы з'явіўся добрым імпульсам у творчасці. Давайце прыгадаем, колькі паэтаў «прынесла» нам адна толькі цаліна — Р. Барадулін, Г. Бураўкін, К. Цвірка, Р. Тармола і інш. Яно так: чалавек — гэта не тое, што ён думае пра сябе, не тое, што пра яго думаюць іншыя. Галоўнае ў ім — як ён дзейнічае, што ён робіць. Толькі ў працы найбольш поўна раскрываюцца і гартуюцца рысы чалавечага характару, яго талент.

М. Маляўка ўваходзіць у літаратуру, маючы багаты запас уражанняў і назіранняў, набыты ім у час работы ў далёкай Карэліі. Адсюль, відаць, стрыманасць і нешматслоўнасць яго, калі ён піша пра людзей працы, пра людзей, якія шчодрыя на пачуцці і скупыя на словы, хоць «ніколі не прыкусваюць язык» (вершы «Атланты», «Я паслаўся на голлі...», «Прыязджай з далёкай явы», «Сустрэча» і інш.). У вершах М. Маляўкі няма нечаканых рытмаў, глыбока «завінчаных» вобразаў, складаных тропаў, але няма ў яго і вершаў без эмацыянальнага напаўнення, бязліка-халодных. І дарэмна ён часам імкнецца кампенсаваць гэты ўяўны «недахоп» такімі радкамі:

> Мы сумленне перакупшчыкам
> Не збываем, як тварог.
> У душы — дрымучай пушчы
> Чалавечых дум, трывог.

Гэта залішне для паэта, які мае свой паэтычны голас, сваё светаадчуванне, па-свойму выразна і цікава раскрывае складаны свет чалавечых пачуццяў, добра валодае слоўным жывапісам. Вось радкі з вершаў «Прыйшоў у лугі сенакос»:

> Аблокамі свет правах —
> Упалі з блакітнай кроны;
> Здаецца, вазьмі —
> На зубах
> Яны зарыпяць, як антоны

І ўвесь верш гэты іскрыцца і пераліваецца лугавымі краскамі, абпырсканымі ранішняй расой, і кожнае слова ў ім свежае, чыстае, ранішняе.

Наогул, у лепшых вершах зборніка «Жалеза» М. Маляўка паказаў сябе як пісьменнік, які вельмі ўдумліва ставіцца да мовы, добра валодае шматзначнасцю паэтычнага слова («Шчыравала пчала», «Белыя пісьмы», «Дзе світаюць рэчкі»...). А верш «Франтавая пошта», на маю думку, можна аднесці да лепшых твораў, напісаных паэтамі малодшага пакалення пра вялікую народную трагедыю — вайну.

Другі зборнік вершаў М. Маляўкі «Жалеза» сведчыць, што паэт пашырыў і паглыбіў свае творчыя абсягі, прыкметна вырасла яго майстэрства. І галоўнае — паэт паказаў у нейкай ступені духоўную эвалюцыю нашага маладога сучасніка ад юнацкай рамантычнай узнёсласці, першых поспехаў і расчараванняў да глыбокага ўсведамлення сваёй значнасці, сваёй адказнасці перад роднай зямлёй і часам. І пагаджаешся з паэтам, калі ён гаворыць:

> Недзе праб'ёмся травою,
> Недзе падымемся лесам.
> Недзе, відаць, пад зямлёю
> Станем рудою,
> Жалезам.
> І да нашчадкаў вернемся.
> І ў метале трывалым
> Ім паслужым наверсе
> Куляй,
> Ракетай,
> Аралам...

А. ГРАЧАНІКАЎ.

Мікола Маляўка. «Жалеза». Выдавецтва «Беларусь». 1970.




## Леанід ДАЙНЕКА



●

Хай у печах мартэнаўскіх сонца бушуе.
Хай на скроні каканых не ляжа зіма.
На уральскім агні загартоўваў душу я,
І пакуль што ні зломаў, ні трэшчын няма.

Помню вас, гарнякі, помню вас, сталявары.
Толькі вочы заплюшчу — і зноў прада мной
Паплывуць, паплывуць вашы светлыя твары,
Як вясеннія воблакі над зямлёй.

Помню цэх шматгалосы і змену начную,
Помню ў шуме і громе, у промнях святла
Кранаўшчыцу, кержачку вясёлую Нюру,
Што па цэху з гарэзлівай песняй ішла.

У далёкіх краях, на дарогах бясконцых
Я усюды успомню рабочых людзей.
Нават промень маглі яны выкаваць сонцу,
Каб гарэла мацней і свяціла ярчэй.

Тыя дні, як са школьнае дошкі, не сцерці,
Тыя дні маіх думак і слоў разьбяры.
Мне здаецца, і сёння звініць маё сэрца
Ля крутога падножжа магнітнай гары.

●

Усё павінна быць самім сабой —
Зямля зямлёй, вада вадой і неба небам,
Павінен чорны хлеб быць чорным хлебам.
Усё павінна быць самім сабой.

Крывая не замяніцца прамой,
Двудушша не схаваецца пад грымам.
Ёсць розніца паміж агнём і дымам,
Паміж высокай праўдай і маной.

Той, хто да славы лезе напралом,
Хто кожны дзень жыве у новай ролі,
Не стане белым лебедзем ніколі,
А вечна будзе брыдкім качанём.

Святлом зары напоўніўшы свой дом,
Устаньце, людзі пільныя, на варту —
І чэрствасці халоднай кантрабанду
Не пранясе душа з падвойным дном.

●

Санны след... Імклівы полаз...
Храп каня пад белым небам.
Я люблю глядзець на поле,
Зацярушанае снегам.

Усё здаецца мне, здаецца,
Усё мне мроіцца заўсёды,
Што гарачы конь нясецца
Праз халодныя сумёты.

Зззяе месяц срэбнарогі,
Ткуцца снежныя лагчыны.
І трымціць уздоўж дарогі
Злосны бляск вачэй ваўчыных.

Ліхаманкава, трывожна
У каня бялее грыва.
Адзінокі падарожнік
Азіраецца пужліва.

А ў санях, на снезе мяккім,
Спіць хлапчук, шчаслівы самы.
І малому сніцца маці,
Хата з цёплымі блінамі.

### З Я М Л Я

Мы ў сутнасці яе радня —
Дзень заўтрашні, дзень учарашні,
Нас возьме да сябе яна,
Калі часы наступяць нашы.

Пяскі, граніты, чарназём,
І бель снягоў, і звон крыніцы.
Мы паступова пазнаём
Усе зямныя таямніцы.

Над ёй вятры і зорны дождж,
І соснаў звонкія антэны.
У чаравіках, басанож
Па ёй мы ходзім, як Антэі.

Калі сустрэнуся ў жыцці
З апошніх дзён апошнім кругам,
Зямля, хачу к табе прыйсці
Не шэрым попелам, а плугам.

### П А Ч А Т А К

Быў светлы дзень. І быў пачатак..
Быў промень сонечны ў акне.
І недзе ўжо па трэцяй чарцы
Узялі суседзі за мяне.

Але Зямля была цвярозай,
Спакойным быў яе пагляд.
Бо у яе жывых баразнах
Гуло жыццё другіх зярнят.

Яна знайшла ўжо з той мінуты
Сярод палеткаў і крыніц
І цвёрды камень — спатыкнуцца,
І лекі — рану загаіць.

# ДЗЕВЯЦЬ ШЧАСЛІВЫХ

*«БЕЛАРУСКІ НАБОР» У ІНСТЫТУЦЕ КІНЕМАТАГРАФІІ*



**Вось яны, беларускія студэнты Дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі: Аляксандр Бяспалы, Святлана Сухавей, Уладзімір Січкар, Пётр Юрчанкоў, Леанід Белазаровіч, Ніна Аляксейчык, Вячаслаў Гайдук, Святлана Міхалькова, Уладзімір Грыцэўскі, Лідзія Мардачова.**

СПЕЦЫЯЛЬНАЯ камісія кінастудыі «Беларусьфільм» тым летам упершыню пасля вялікага творчага конкурсу, які праходзіў у гарадах і сёлах рэспублікі, выбрала для акцёрскага факультэта Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі дзевяць чалавек, — «дзевяць шчаслівых». Трое дзяўчат і шэсць хлопцаў. Света Міхалькова і Саша Бяспалы з Гомеля, Ніна Аляксейчык і Валодзя Антонік са Слоніма, Лёня Белазаровіч з Мінскай вобласці, Валодзя Грыцэўскі і Валодзя Січкар з Гродна, Ліда Мардачова з Магілёўскай вобласці, Пеця Юрчанкоў з Брэста.

Іх так і назвалі — «беларускі набор». Як лічаць у інстытуце, беларусам вельмі пашанцавала. Яны трапілі ў майстэрню Ігара Васільевіча Таланкіна.

Пасля леташняй зімовай сесіі, першай сесіі ў іх жыцці, пра «беларусаў» загаварылі. Нясмелыя і нехлямяжыя на першы погляд — нашы хлопцы і дзяўчаты пакарылі непасрэднасцю, сілай пачуццяў...

Сёлета ў акцёрскую групу ўвайшла Святлана Сухавей, якая закончыла дзесяць класаў у Мазыры. Святлана ўжо мае вопыт работы ў кіно. Яна здымалася ў рэжысёра В. Турава ў кінафільме «Сыны ідуць у бой» (кінастудыя «Беларусьфільм»), у фільмах А. Салтыкова «Бабіна царства» і «Дырэктар» (кінастудыя «Масфільм»). Святлана па справядлівасці адразу стала студэнткай II курса акцёрскага факультэта.

Вельмі прыемна, што ў шматаблічны студэнцкі калектыў інстытута ўлілася і беларуская гаворка.

З інтэрната, дзе жывуць студэнты, вечарамі можна пачуць песню:

*...У суботу Янка ехаў ля ракі,*
*На рацэ Алёна мыла ручнікі...*

І здаецца, што ты дома. І хоць Масква зусім блізка ад Беларусі, але тым, хто ўпершыню адарваўся ад дома, — не-не, ды і зашчыміць усярэдзіне. Сумна стане. Песня выручае...

У інстытуце, апроч названай акцёрскай групы, займаецца многа моладзі з Беларусі. На рэжысуры мастацкага фільма ў І. Таланкіна вучыцца Слава Гайдук, на рэжысуры дакументальнага кіно ў І. Капаліна — Сярожа Лук'янчыкаў, на кіназнаўчым аддзяленні, дзе майстар — рэктар інстытута А. Грошаў, — Іра Кудзеліна, на сцэнарным факультэце ў прафесара І. Маневіча — Валодзя Лабанаў і я.

На кінастудыі «Беларусьфільм» уважліва сочаць за нашай вучобай. Мы — тое папаўненне, якога чакае студыя.

Прайшоў ужо год. Усе пасталелі, сталі сапраўднымі сталічнымі студэнтамі.

Паступова назапашваецца акцёрскае майстэрства. Тэатры, бібліятэкі, канцэртныя залы, сустрэчы са славутымі артыстамі, гутаркі з мастацтвазнаўцамі і крытыкамі — нішто не праходзіць бясследна. І хто ведае, можа вельмі хутка пра нас загавораць, нашы імёны з'явяцца ў тэатральных праграмах, у ціттрах кінастужак, на старонках друку...

Таццяна ПАТАПЕЙКА.

**З пошты ЛіМа**

# ЛЕГЕНДАРНАЯ ФРОСЯ — ДАЧКА КРЫЧАЎШЧЫНЫ

У часопісе «Полымя» (№№ 3—4 за 1969 год) была апублікавана дакументальная аповесць Аляксандры Ус і Алены Уладзіміравай «Вікторыя».

У адным з раздзелаў аповесці расказваецца пра Ефрасінню Калбееву — мужную падпольшчыцу, якая, не лічачыся са смяртэльнай рызыкай, даставала і перапраўляла партызанам медыкаменты, а ад іх прыносіла ў Мінск лістоўкі і газеты.

Вось адзін з хвалюючых эпізодаў, расказаных аўтарамі аповесці.

Аднойчы, глыбокай восенню, Фрося з Рэгінай Івановай выйшлі з Мінска. У кошыках розная апранаха, каб абмяняць яе ў вёсках на хлеб. Гэта — каб адвесці вочы немцам і паліцаям. А ёсць яшчэ ў кошыках карты сакрэтнага прызначэння, дакументы, лякарствы.

Падышлі да вёскі Паперня. Раптам наперадзе пачуліся стрэлы, крыкі. Над хатамі ўзнялося полымя пажару. Падпольшчыцы заўважылі фашыстаў. Фрося і яе сяброўка пабеглі да ракі...

Ледзяное купанне не прайшло дарма, знясіленая, цяжка хворая, вярнулася дзяўчына ў Мінск. Фросю паклалі ў адну з палат першай клінічнай бальніцы, дзе дзейнічалі яе сябры-падпольшчыкі. Аднойчы ў палату ўварваліся фашысты. Амаль паралізаваную Фросю выцягнулі на двор.

Мабыць, у гестапа ўжо сабралася нямала звестак пра бясстрашную падпольшчыцу. Можа там даведаліся і пра тое, што ў Мінскіх руінах застрэліла яна фашысцкага салдата. Вывозячы Фросю з бальніцы, фашысцкі афіцэр сказаў пра яе:

— Партызан, бандыт.

Па некаторых звестках пасля жахлівых катаванняў у гестапа Фросю спалілі ў Трасцянцы пад Мінскам.

Аўтары аповесці «Вікторыя» ў заключэнне пішуць: «Фрося-Фросечка! Адкуль ты была, якая маці і ў якім краі праспявала табе першую калыханку? Хто выплакаў вочы па табе? Дзе? На Волзе, у Сібіры, у Падмаскоўі? Кажуць, ты была аднекуль здалёку. Цяпер ты наша зямлячка. Навечна, бо попел твой стукаў у сэрцы тых, хто працягваў барацьбу...»

Жыхарка Крычаўскага пасёлка цэментнікаў Ганна Флегантаўна Базілевіч, прачытаўшы аповесць «Вікторыя», напісала ў наш музей. Аказваецца, яна ведала Ефрасінню Калбееву, вучылася з ёй разам у 1936—37 гадах у сярэдняй школе вёскі Маляцічы Крычаўскага раёна. Нарадзілася ж выдатная гераіня Мінскага падполля Ефрасіння Калбеева ў вёсцы Ананічы на Крычаўшчыне.

Ганна Флегантаўна прасіла адлюстраваць подзвіг Ефрасінні Калбеевай у экспазіцыі музея.

Гэту просьбу мы з радасцю выконваем. Неўзабаве экспазіцыю музея ўпрыгожыць партрэт мужнай патрыёткі. Наведвальнікі музея змогуць пазнаёміцца з дакументамі, якія расказваюць пра жыццё нашай слаўнай зямлячкі, жыццё, аддадзенае ў імя сённяшняга шчаслівага дня.

**М. МЕЛЬНІКАЎ,**
**дырэктар Крычаўскага краязнаўчага музея.**



# БУДЗЬЦЕ ЗНАЁМЫ:

# Іван ПЯШКО

Іван Пяшко з вёскі Лішыцы Гродзенскага раёна. Яму дваццаць дзевяць гадоў. Пасля сярэдняй школы і прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча працаваў электрамантажнікам, сталярам, дыспетчарам, аператарам бетоннага завода. Служыў у арміі. У 1967 годзе скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы і працуе дырэктарам васьмігадовай школы ў Грамавічах Шчучынскага раёна.

У сваіх першых апавяданнях аўтар звяртае на сябе ўвагу ўдумлівасцю і сур'ёзным падыходам да жыцця, уменнем парадаваца ці паспачуваць людзям. Яго творы прымушаюць азвацца пекія патаемныя струны нашага сэрца.

Шчаслівай табе дарогі, малады сябра.

Аляксей КАРПЮК.

## БУСЛЫ

Крушнікі, невялікая вёсачка па-над Котрай, вылучаецца сярод іншых вёсак наваколля сваімі, вялікімі, у некалькі абхватаў таполямі. А самая вялікая сярод усіх—на загуменні адзінокай цёткі Ганны.

Зранку цётка Ганна памыла падлогу, выцерла вокны, падмяла ў сенцах, прыбрала ўсё ды выйшла на вуліцу, каб зрабіць і там парадак. Старалася, аж успацела: завітае настаўніца — хай спадабаецца. Прыязджае ў вёску новая настаўніца, то мусіць да яе на кватэру прыйдзе. Былі ж у Ганны і настаўнікі, і аграномы — кватараваліся.

Тупаючы ля хаты, яна ўбачыла параскіданае галлё пад таполяй. Учора таксама было. Яна падгрэбла яго. Сёння зноў накідана. Адкуль? Не з неба ж... Цётка зірнула ўгору. Нізка, часта ўзмахваючы крыламі, ляцеў бусел з галінкай у дзюбе. «Яго работа»,— падумала жанчына.

Бусел падляцеў да таполі, сеў на счарнелы сук-рагаціну. З дзюбы выпусціў галінку. Слізгануўшы па дрэве, галінка ўпала. Бусел здзіўлена крутнуў галавой, паглядзеў услед.

Дык вось яно што! Гэтае месца спадабалася буслу, захацеў на таполі гняздо мець. Можа таму, што рагаціна так высока, можа таму, што за гумнамі пачыналіся сенажаці, дзе ў старых сажалках процьма жаб. Вясной, як сцямнее, такі канцэрт наладзяць — хоць вушы затыкай.

Адпачыўшы, бусел паляцеў — пэўна, за новай галінкай. Цётка Ганна падышла бліжэй. чаго ён толькі не нанасіў! Абрэзаныя вострым нажом сухія галінкі яблынь з калгаснага саду, даволі важкія альховыя сучкі, і нават бярозавыя — бач ты яго, аж з гаю за восем кіламетраў адсюль!

Ганна не стала прыбіраць буслава смецце («Можа, падыме, клекатун...»), прысела на прызбу, задумалася.

У іх вёсцы, зусім маленькай, з пятнаццаці хат, параскіданых на палянцы сярод сасновага бору, на страсе іх адрыны, за агародамі, там, дзе пачыналася куп'істае балота з жорсткай асакой і вужакамі, жылі буслы. Даўно жылі. Як памятае Ганна — заўсёды.

Напрадвесні таго жахлівага года яна выйшла замуж у суседнія Крушнікі, за два кіламетры.

... У тую ліпеньскую ноч ніхто ў Крушніках не спаў. Крывавае зарыва стаяла над лесам. Палыхала яно і над яе роднай вёскай, дзе засталіся маці, бацька, сястрычкі і пяцігадовы брацік Уладзік — усе такія родныя. Яна рвалася туды, яе не пускалі. У тую ноч немцы акружылі вёску, сагналі ўсіх у адрыну, падперлі дзверы, падпалілі....

Раніцой, спатыкаючыся і падаючы, яна прыбегла туды. Курыліся галавешкі. Абгарэлыя яблыні з апаленымі, чорнымі недаспелымі яблыкамі, звялае лісце дрэў, закопчаныя печы — усё было дзіка, жудасна. Яе ледзь не збіў з ног Шарык. З нейкім смуткам ён лашчыўся, круціўся ля яе ног, скуголіў, бег туды, дзе курылася адрына, і зноў вяртаўся. Увесь у балотнай твані, з прастрэленай шыяй, акрываўлены, ён вёў яе далей, за агароды. У разоры яна ўбачыла сінюю кашульку Уладзіка, а непадалёк — яго самога. Яна ўпала на зямлю, завыла, застагнала ад болю, ад гора.

А над папялішчам высока ў гары, распластаўшы крылы, паволі кружыліся два буслы. Буслы, што жылі на іхняй адрыне.

...Вечарэла. На вёску апускаўся змрок. Успаміны Ганны перарвалі чыесьці галасы. Вярталіся з работы мужчыны — калгасныя цеслі.

Цётка Ганна паднялася, выйшла на вуліцу.

— Мужчынкі, мо дапаможаце? — яна паказала рукой на таполю.

Прыпыніліся мужчыны. Знайшлі ў суседзяў некалькі драбін, звязалі іх дротам. Аднекуль прыцягнулі старое кола. Зацягнулі яго на таполю, прымацавалі.

...Новая настаўніца прыйшла надвячоркам: дзенідзе запальваліся ўжо ў вокнах агні. Гэта была маладзенькая, сарамлівая дзяўчына, хоць і назвалася Людмілай Данілаўнай.

Назаўтра раніцай. падняўшыся з ложка, цётка Ганна падышла да акна. Параскіданых галінак не было — бусел парадкаваў іх на гняздзе, быццам добры гаспадар выкладваў воз сена. Яна гнала на дзядзінец карову і думала аб тым, як прыйдзе дамоў, разбудзіць Данілаўну, пачастуе яе цёплым малачком.

Падыходзячы да хаты, зноў зірнула на таполю. У гняздзе сядзелі буслы. Іх было двое.



Мал. В. ТАРАСАВА.

## КРЫЖЫК

Бабуля ляжала нерухома, уся ў чорным. Твар яе меў бледна-жоўты колер свечкі, што паволі плавілася ад дрыготкага язычка полымя.

Яна памерла ноччу. Хацела выйсці на падворак, прысела на парозе, каб перавесці дух, ды тут і сканала.

Калі я прачнуўся, пад столлю капціла пяцілінейная лямпа. Паціху шапталіся суседзі. Над бабуляй галасіла цётка Насця, дачка яе.

Удзень мужчыны габлявалі на двары смольныя дошкі. Іх сцягнулі з вышак. Бабуля даўно нарыхтавала іх, як падрыхтавала і апратку. Цяпер вось і дошкі, і чорнага колеру адзенне дачакаліся гэтага часу.

З бабуляй я ладзіў. Яна не скупілася даць рубель, калі дзед Якуб з суседніхАзярок прывозіў скрыні з кіно. Той дзень быў для мяне і святам, і пакутай. Я зранку строіў планы, як пранікнуць у Янкаву адрыну, дзе круцілі кіно. І от часта мяне выручала бабуля. Сама ж яна ніколі кіно не бачыла, хоць было ёй за восемдзесят. Я не раз агітаваў яе пайсці разам. Яна згаджалася, але калі прыходзіў час, у яе адразу знаходзілася работа. Так і памерла бабуля, не пабачыўшы ні разу кіно.

Пахаваннем распараджаўся дзядзька Лукаш — лічыўся ён далёкім сваяком. Паслаў хлопцаў выкапаць дол, а сам з'ездзіў за ксяндзом — прывёз яго на жвавым жарэбчыку з фермы, нават паслужліва дапамог грузнаму служыцелю бога злезці з вазка, засланага нашай лепшай дзяружкай. Пакуль ксёндз рыхтаваўся, Лукаш да жанчын падбег.

— Граматны, халера. Пра ўсё ведае. Усю дарогу гутарку вялі. Ён мне пра стварэнне свету, а я пра тое, што нявестка набожчыцы — салдатка, муж з вайны не вярнуўся, дзетак трое, іх карміць трэба. Кемлівы аказаўся. Разумею, гаворыць, ці ж не чалавек? Сто рублёў возьме. Ды малыя з кошык баравікоў маладзенькіх назбіраюць.

З прыездам ксяндза ў хату з усёй вёскі набілася народу. Ксёндз спяваў. А скончыўшы спевы, стаў борздзенька чытаць з малюсенькай кніжачкі ў чорнай вокладцы.

Нарэшце, скончылася і чытанне. Людзі, што дагэтуль напіралі, адхлынулі, выходзілі на вуліцу. Ксёндз нагнуўся над бабуляй. Я падышоў бліжэй. Ён разглядаў крыжык. Крыжык у бабулі быў маленькі, залаты. Ён заўсёды целяпаўся на яе грудзях.

Мне вельмі падабаўся ланцужок, на якім вісеў крыжык. Я не раз упрошваў бабулю даць панасіць на ланцужку сцізорык.

І вось гэты крыжык разглядаў ксёндз.

Каля бабулі ўжо стаялі чужыя дзядзькі, каб панесці яе на вуліцу...

Па дарозе з могілак мяне і маці дагнаў Лукаш.

— Мар'яна! Шукаць грошы трэба!

— То ж аддалі.

— Пяцьсот рублёў сказаў ксёндз.

— Вы ж дамовіліся... Гаварыў жа...

— То раней было. Цяпер гаворыць — нечага прыбядняцца. Золата ў зямлю закопваеце. Крыжык, кажа, далі б, пахаваў бы і так. Бясплатна.

Маці нічога не сказала. Толькі паглядзела моўчкі на палявую дарогу, па якой пылю вазок з ксяндзом.

Грошы дастаў дзядзька Лукаш.

З тае пары прайшло семнаццаць гадоў. Кудысьці з'ехаў той ксёндз. Пустуючы будынак касцёла аддалі пад спартыўную залу. Але калі я праязджаю міма касцёла ці сустрэну чалавека ў доўгай чорнай вопратцы, мне ўспамінаецца той ксёндз із памерлай бабулі, які трымаў у руках залаты крыжык.

## БУКВАР

Гэтым летам, здаўшы дзяржаўныя экзамены ў педінстытуце, я прыехаў у родную вёску. Цэлымі днямі праводзіў свой вольны час на рэчцы, хадзіў у лес шукаць яшчэ рэдкія баравікі. І ўсюды за мной па пятах хадзіў мой пляменнік, сямігадовы Петрык.

Восенню Петрык пойдзе ў школу, і жыў ён цяпер толькі аднымі думкамі — аб школе. Ужо даўно весела ў шафе навенькая школьная форма, жоўтыя бліскучыя сандалеты чакалі свайго часу, але вось самага галоўнага — буквара — у яго яшчэ не было.

На вышках мы з Петрыкам знайшлі стары веласіпед, адрамантавалі і зрабілі яго нашым трэцім спадарожнікам. Хутка Петрык і сам навучыўся ездзіць.

Ішлі першыя дні жніўня, а нідзе ў бліжэйшых кнігарнях букавароў яшчэ не было. Аднойчы прыехаў з вёскі Петрык узрушаны.

— Ёсць буквары.

— Дзе?

— У райцэнтры.

— Ну і што?

— З'ездзіце, га?

— Цяпер?

— Цяпер. А то разбяруць. А як я ў школу пайду?!

— Куды ж ехаць? Спячыся на такім сонцы можна. Яшчэ цэлы месяц да заняткаў.

— Не хочаце, дык я сам з'езджу. — Петрык рашуча адвярнуўся і пайшоў ад мяне.

Пасля абеду пачалася навальніца.

— А дзе ж Петрык? — успомніў пра сына мой старэйшы брат.

— А хто яго ведае. Як навучыўся на веласіпедзе гойсаць, дык не злазіць. Не абедаў нават, — нездаволена азвалася маці.

«Значыць, ён і сапраўды паехаў, — падумаў я. — А да райцэнтра дзесяць кіламетраў, ды назад столькі ж. Ну і жэўжык!»

— Не ведаю, дзе і шукаць. У Фядоркавых пыталася — не бачылі, гавораць. Мо на рэчку з дзецьмі пабег, — гаварыла маці.

Хмара прайшла, гром грукатаў далёка, дождж ацiхаў, калі насупраць нашай хаты спынілася машына. Мокры, як кураня, з кузава вылазіў Петрык. Шафёр падаваў яму веласіпед. Я выбег на вуліцу.

— Дзе ты быў?

— Кола спусціла...

І хаця Петрык прамок да ніткі, выгляд меў шчаслівы:

— Дзядзя, а во! — Ён выцягнуў з-за пазухі буквар. Падручнік быў крыху падмочаны. Петрык асцярожна крануў пальцамі мокрую вокладку. — Нічога, я яго ў газету загарну.

# НЕСПАКОЙ



ВОСЬ ужо тры дзесяцігоддзі, як амаль на ўсіх больш-менш значных выстаўках з'яўляюцца жывапісныя або графічныя работы Канстанціна Касмачова. Гэта або такія значныя палотны, як шырока вядомая карціна «Незабыўнае», якая вырасла з малюнка, або серыя задушэўных пейзажаў, або сціплы малюнак алоўкам — лодкі і снасці дзе-небудзь на Нарачы. І ва ўсім адчуваецца рука майстра, душа сапраўднага мастака, які прывык ісці непратаптанымі сцежкамі, які аддае перавагу творчым пошукам, звязаным з неспакоем, з клопатамі, турботамі, а часам і з няўдачамі, у якіх толькі і загартоўваецца душа сапраўднага мастака.

Я сустракаўся з ім, калі ён працаваў над карцінай «Раніца дваццатага стагоддзя. Клятва». Сёлетняй вясной.

Як і ў большасці твораў мастака пра Уладзіміра Ільіча Леніна, тут пануюць прастата, лаканізм. Але як няпроста даюцца гэтыя якасці! Як няпроста дамагчыся глыбокага, пранікнёнага раскрыцця тэмы, перадаць праўду гісторыі, праўду ленінскага характару, праўду характараў яго аднадумцаў...

...Шушанскае... Вялізны аранжавы дыск ранішняга сонца... Ленін і яго аднадумцы, з якімі ён разам быў у Шушанскім. Адзін з іх паляк, другі—фін. Розныя людзі. Розныя характары. Але сур'ёзнасць моманту (рэвалюцыянеры даюць клятву на вернасць ідэям марксізма) як бы аб'ядноўвае іх. Стрыманы парыў, унутраная энергія, высакароднасць душы перададзены мастаком пераканаўча.

Мастак пазбягае кантрастаў у адзенні персанажаў, канцэнтруе ўвагу на абліччах Ільіча і яго сяброў па барацьбе. Вось гэтым акцэнтам і падпарадкаваны кампазіцыя, матэрыял.

Так, матэрыял... Канстанцін Касмачоў ведае, як няпроста стварыць арыгінальную кампазіцыю, як няпроста дамагчыся, каб матэрыял актыўна ўплываў на раскрыццё тэмы, «працаваў на ідэю». Невыпадкова ён імкнецца заўсёды знайсці матэрыял просты і разам з тым такі, які меў бы дэкаратыўныя ўласцівасці. Многа было накідаў і эксперыментаў, перш чым усталялася кампазіцыя гэтай карціны, перш чым быў знойдзены матэрыял. Яна напісана, гэтая карціна, на звычайнай драўлянай пліце (ДСП), заключанай у драўляную раму (для мастака не бывае дробязей нават у абрамленні твора!)... І драўляная рама, на мой погляд, вельмі ўдала спалучаецца тут з тэмперай і вугалем. Бліскуча валодаючы малюнкам, Касмачоў увогуле актыўна скарыстоўвае ў шмат якіх работах лінію, контур. А тут лінія і контур асабліва падкрэслілі выразнасць кампазіцыі, яе, калі так можна сказаць, гучнасць.

Я глядзеў на гэтую работу майстра і думаў, што тэмпера, вугаль, выразнасць контурнай лініі, лакальныя колеры адкрываюць перад карцінай шырокія магчымасці паўтарэння ў іншых матэрыялах. Карціна можа быць ператворана ў мазаіку, фрэску. Яна нават можа быць увасоблена ў плакаце!

Пра карціну спрачаліся калегі мастака і мастацтвазнаўцы. Мая думка хіліцца да тых, хто лічыць, што нарадзіўся твор значны.

Дарэчы, прыгадваецца і шлях прызнання яго карціны «Напярэдадні». Як ні дзіўна, адна з лепшых кампазіцый беларускіх мастакоў на ленінскую тэму спачатку атрымала прызнанне не дома, а ў Маскве. Гэта было дванаццаць гадоў назад.

Сёлета на юбілейнай ленінскай выстаўцы мы пабачылі новы варыянт малюнка «Напярэдадні». Быццам бы і незаўважныя перамены адбыліся, але фігура Леніна набыла большую цэласнасць, манументальнасць.

Канстанцін Міхайлавіч расказаў мне, што хлопчык у кампазіцыі «Напярэдадні»—персанаж не выпадковы. Гэта сын рабочага Емельянава, які часта бываў з Леніным.

Дванаццаць гадоў спатрэбілася, каб яшчэ больш удасканаліць кампазіцыю, якая ўжо набыла ўсесаюзнае прызнанне. І так Касмачоў працуе заўсёды. Нават самы мудрагелісты пейзажны матыў нясе ў яго значны эмацыянальны напал. А што ўжо казаць пра тэму тэм — ленінскую, якая ў творчасці Касмачова займае вядучае месца.

Праўда, прыйшоў да гэтай тэмы Касмачоў не адразу...

Першай яго значнай работай была карціна «У падпольнай друкарні» (1940), якая засталася прыкметнай вяхой у беларускім савецкім жывапісе.

Пасля была вайна. Касмачоў пайшоў добраахвотнікам на фронт. Быў цяжка кантужаны. Пасля шпіталю — зноў у баявым страі. Здаралася, што і ў ваенных умовах выпадала аддаць рэдкія хвіліны паміж баямі накідам, замалёўкам.

У 1945 годзе, дэмабілізаваўшыся, Канстанцін Касмачоў напісаў карціну «Рускія прыйшлі» (яна мае і іншую назву—«Знянацку»). Паказаны момант разгрому апошняга фашысцкага логава.

А 1947 год быў азнаменаваны завяршэннем работы над палатном «Ленін у Разліве». Правадыр паказаны за работай, у глыбокім роздуме над спісанымі лістамі паперы, якія ляжаць проста на валуне. Ленін-філосаф—такая была мэта пошукаў мастака.

«На калгаснай пасецы»—карціна 1950 года. Звычайны сюжэт. Падгляд пчол. Але паэзія працы, якая яна тут хвалюючая! Невыпадкова крытыка аднагалосна прызнала гэты твор лепшым сярод усіх у нашым жывапісе, прысвечаным калгаснаму жыццю.

Распрацоўваючы самыя разнастайныя тэмы і настроі ў пейзажы, пішучы карціны аб працы, аб сучасніках, мастак увесь час не пакідаў роздуму над ленінскай тэмай—шукаў кампазіцыю, спосабы самай пераканаўчай перадачы ленінскага характару. Пасля «Леніна ў Разліве» і «Незабыўнага» ў 1962 годзе Касмачоў піша карціну «Зара», прысвечаную Ільічу. А неўзабаве з'явіўся яго трыпціх «Незабыўнае», які мае сваю гісторыю.

Адзін з землякоў Канстанціна Міхайлавіча Касмачова, работнік аховы Крамля, запрасіў аднойчы Уладзіміра Ільіча Леніна да сябе на Смаленшчыну адпачыць, паглядзець, як жывуць сяляне, папаляваць. Ільіч згадзіўся і правёў на Смаленшчыне тры дні. Якраз у тых мясцінах, дзе прайшло дзяцінства Канстанціна Касмачова.

Цэнтральная частка трыпціха—Ленін гутарыць з сялянамі. Гэта егеры, знаўцы мясцовых лясоў. Салдат у папасе некалі быў у Смольным, бачыў Леніна. Па шчаслівай выпадковасці Ільіч якраз і спыніўся ў ягонай хаце. І вось цяпер былы салдат дастаў з запаветнага кутка газету з партрэтам правадыра, якую старанна захоўваў, каб пераканацца, што перад ім сапраўды Ленін. Ён пазнаў правадыра, і «канспірацыя» не ўдалася. Але Ільіч якраз і быў задаволены, што так атрымалася. Бадай, якраз у цэнтральнай частцы трыпціха найбольш уда-

# ПАМІЖ ПУСТАК, БАЛОТ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ...

## СУМНАЯ ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗАПАВЕДНІКА

«РАКЕТА» адчальвае ад прыстані, разварочваецца па плыні і, набіраючы хуткасць, выходзіць на крыло. Бывай, Тураў! Горад знікае за паваротам Прыпяці, за сцяной дажджу, а я думкамі ўсё яшчэ там спрабую скласці цэласную карціну падзей, што прывялі мяне сюды.

Пэўна не я адзін пакідаю Палессе, зачараваны гэтымі мясцінамі, з надзеяй яшчэ раз вярнуцца сюды. Яшчэ ў самалёце, на падыходзе да Турава, захапіла мяне нейкая рачулка, што, упадаючы ў Прыпяць, здаецца, сама заблыталася ў сваіх старыцах — як ні ўглядайся, так і не зразумееш, дзе яе сапраўднае рэчышча. І не дзіва— плоская тут нізіна, толькі недзе ў сярэдзіне чэрвеня сыходзіць з яе вада. Пэўна, і зараз тут не вельмі пройдзеш пешшу.

Такіх мясцін усё меней застаецца зараз на нашым Палессі. Інтэнсіўнасць меліярацыі расце з кожным годам, сучасная тэхніка дае магчымасць за кароткі час цалкам змяніць аблічча гэтага краю. Вялікая меліярацыя, што зараз праводзіцца на Палессі,— бадай, першы ў гісторыі чалавецтва вопыт змянення фізіка-геаграфічнага стану цэлага краю.

Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што яшчэ далёка не ўсе вынікі гэтай работы можна прадбачыць. Таму ўрад рэспублікі і рашыў захаваць у адным з раёнаў Палесся ўсе яго спрадвечныя прыродныя асаблівасці. Летам 1969 года была прынята пастанова аб стварэнні Прыпяцкага дзяржаўнага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка. Мелася на ўвазе, што Прыпяцкі запаведнік дасць магчымасць вучоным і практыкам выявіць змены ў прыродзе, выкліканыя ўмяшаннем чалавека. Дасць магчымасць і захаваць некранутай унікальную флору і фауну Палесся, якая ў такім спалучэнні не сустракаецца больш нідзе на свеце.

Адшукаем на карце рэспублікі паміж Туравам і Петрыкавам месца ўтоку ў Прыпяць Ствігі і Убарці. У трохкутніку, што створаны гэтымі трыма прыроднымі граніцамі, выдзелена дзяржавай 62 тысячы гектараў зямлі. Ініцыятарамі стварэння запаведніка былі Акадэмія навук БССР і Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па ахове прыроды. Выканаўца ўрадавай пастановы — Міністэрства лясной гаспадаркі рэспублікі.

Цэлы год прайшоў з таго часу — па сучасных мерках тэрмін немалы. Што за гэты час зроблена? Нічога. Калі не лічыць новай шыльды на канторы лясгаса (запаведнік створаны на базе Тураўскага лясгаса).

Спытайцеся мясцовых людзей пра запаведнік — большасць пра самое існаванне яго нават не чула. У кантору да намесніка дырэктара па навуковай рабоце М. Літвіна на-ранейшаму прыходзяць толькі па дровы, як раней ішлі да галоўнага ляснічага М. Літвіна. Дарэчы, дровы запаведнік усё роўна будзе адпускаць: санітарная ачыстка лесу патрэбна. Бяда ж у тым, што і да гэтага часу гаспадарчая работа замяняе тут навуковую і нават замінае ёй.

У рашэнні Дзяржаўнага камітэта па ахове прыроды ад 16 ліпеня гэтага года запісана: «На тэрыторыі запаведніка дапускаецца нарыхтоўка пнёвага асмолу ўзрыўным спосабам». Гэта значыць, што як і раней, так і зараз тут рвуць пні аманалам. Нічога сабе запаведнік, у якім з раніцы да ночы бухае кананада, палохаючы звера і птушку. Робіцца гэта з дазволу самога міністра лясной гаспадаркі рэспублікі С. Маісеенкі.

«У сувязі з неабходнасцю забеспячэння патрэб тураўскага леспрамгаса ў лесахімічнай сыравіне для выканання вытворчага плана дазваляю ў парадку выключэння, праводзіць у 1970 годзе нарыхтоўку пнёвага асмолу ў месцах, якія выключаюць магчымасць пашкоджання растучых дрэў, а таксама падсочку сасновых насаджэнняў пераходзячых адыходаў».

Гэта дакумент, падпісаны міністрам лясной гаспадаркі БССР. Я гатовы паверыць, што можна рваць пні, не шкодзячы дрэвам: звычайна, там, дзе ёсць пні, дрэў ужо няма. Але навошта так ужо берагчы іх ад пашкоджанняў, калі ўсё роўна іх будуць псаваць падсочкай? Між іншым, тут падсочваюць не толькі сасну, але і бярозу. Сёлета, напрыклад, бярозавага соку нарыхтавалі 20 тон. Лясніцтву гэта, можа, і выгадна, але ці трэба запаведніку?

Чытаем, аднак, далей пастанову Камітэта па ахове прыроды: «Пашыраецца гаспадарча-разліковая дзейнасць, неўласцівая запаведніку і не выкліканая мясцовымі патрэбамі. Аб'ём таварнай прадукцыі павялічаны ў 1970 г. у параўнанні з 1969 г. на 20 працэнтаў і складае 243 тысячы рублёў, на што выдаткоўваецца 5,2 тысячы кубаметраў драўніны. Прычым выпуск прадукцыі з адыходаў паменшаны на 19 працэнтаў супраць 1969 г.».

Тут і дадаць няма чаго, акрамя меркавання што ў Міністэрстве лясной гаспадаркі цвёрда вырашылі, пакуль не ўведзены запаведны рэжым, як мага больш з гэтай тэрыторыі ўрваць. І натуральна ўзнікае пытанне, ці будзе зацікаўлена міністэрства ва ўвядзенні запаведнага рэжыму. Скажам яшчэ, што, запланаваўшы 243 тысячы рублёў прыбытку, міністэрства «забылася» хоць невялікую частку гэтых сродкаў выдаткаваць на спецыфічныя патрэбы запаведніка — навуковыя камандзіроўкі, набыццё бібліятэкі і іншае. На ўсе біятэхнічныя работы, напрыклад, выдзелена запаведніку 260(!) рублёў.

Тут ёсць адна тонкасць. У пастанове ўрада рэспублікі аб стварэнні Прыпяцкага запаведніка сказана, што ён павінен быць падначалены непасрэдна Міністэрству лясной гаспадаркі. Міністэрства ж перадаручыла гэтую справу Гомельскаму абласному ўпраўленню лясной гаспадаркі, якое ад навукі і ад сапраўдных мэтаў запаведніка яшчэ далей, чым міністэрства.

У «Палажэнні аб Прыпяцкім ландшафтна-гідралагічным запаведніку» сказана, што «...тэрыторыя запаведніка выключаецца з гаспадарчага абароту на нявызначаны тэрмін. Лясы запаведніка адносяцца да першай групы з асобым рэжымам вядзення лясной гаспадаркі». Цікава, што ж гэта за «асобы рэжым»? А вызначаецца ён, гэты рэжым, заўвагай да «Палажэння», у якой у «парадку выключэння» (зноў выключэнне — калі яны толькі скончацца?) дазволена высечка галоўнага карыстання аж да 1975 года ў памеры разліковай лесасекі. Зацверджана «Палажэнне» разам з заўвагай зноў жа міністрам лясной гаспадаркі С. Маісеенкам.

Разліковая лесасека складае ў запаведніку 65 тысяч кубаметраў штогод, што адпавядае прыкладна 300—400 гектарам лесу, у асноўным дуба. Лічба гэтая, у маштабах рэспублікі, невялікая. Але ў маштабе запаведніка яна даволі драматычная, яшчэ і таму, што высякаецца лепшы лес, які тралюецца трактарамі. Пасля гэтай тралёўкі застаецца здратаваная зямля, на якой будзе вельмі цяжка насадзіць маладняк.

Прыгадваецца размова з галоўным інжынерам леспрамгаса М. Цымбала-

ла выказана ідэя адзінства правадыра і народа.

Канстанцін Міхайлавіч, калі мы гаварылі з ім пра гэты твор, зазначыў, што сярод сялян ён адлюстраваў і таго старога, які ў 1924 годзе дабраўся ў дні пахавання Леніна да Масквы, каб пакласці да труны правадыра галінку са Смаленшчыны...

Правая частка трыпціха—Ленін запісвае нешта ў блакнот, забыўшыся на свае паляўнічыя клопаты, сярод чароўнай красы лесу.

Левая частка—хлапчук назірае за машынай, якая аддаляецца, а побач яго бацькі.

— Вось так і я мог бы стаяць, калі б тады ведаў пра прыезд Ільіча...— гаворыць мастак.

Спакойны каларыт трыпціха. Толькі месцамі ажыўляецца ён яркімі плямамі чырвонай тэмперы. Ураўнаважаная каларыстычная гама не адцягвае ўвагі ад галоўнай, цэнтральнай часткі трыпціха.

У 1962—1965 гадах мастак працаваў над карцінай «Рэчыцкая лірычная». Вобразы нашай слаўнай моладзі, паэзія радзімы—такі змест і сэнс твора.

Які твор Касмачова мы ні ўзялі б, заўсёды адзначым вернасць мастака натуры, трывалы малюнак у аснове, цэльнасць каларыстычнага вырашэння, маляўнічасць. Ён схільны надаваць сваім творам некаторую, як бы злёгку падкрэсленую, дэкаратыўнасць. Адсюль—святочнасць, рамантычнае гучанне, лірычны настрой яго палотнаў.

І яшчэ ён—майстар невялічкага пейзажа, які ўтрымлівае ў сабе вялікія пачуцці. Дастаткова прыгадаць у пацвярджэнне думкі серыю «Тут жыў і працаваў У. І. Ленін». Гэта крамлёўскія пейзажы, напісаныя ў розныя часы. Архітэктура старажытнага Крамля, творы выдатных дойлідаў—усё, чым так захапляўся Ільіч, чыю прысутнасць мы міжволі адчуваем у пейзажах серыі, хаця сам правадыр непасрэдна не адлюстраваны.

Мастак нярэдка звяртаецца да вобразаў старажытнай беларускай архітэктуры. Цудоўны ў яго Нясвіжскі замак—аранжава-жоўты на фоне сініх нябёсаў. Быццам волат, узвышаецца над наваколлем Мірскі замак.

Касмачоў-пейзажыст вельмі любіць вясну. Ён часта піша апошні снег, першую зеляніну, рудаватыя дрэвы з набрынялымі пупышкамі дзе-небудзь на Лагойшчыне або Міншчыне.

Асобная тэма—архітэктурныя помнікі Ноўгарада і Пскова—у іх мастака вабіць нешта агульнае са старадаўняй беларускай архітэктурай.

Пейзажы Міншчыны, пейзажы роднага Мікуліна на Смаленшчыне... Вось адзін з іх—«Мікулінскія пагоркі». Ля аднаго з пагоркаў стаяў некалі дом, дзе нарадзіўся мастак. Некалі тут раслі гонкія сосны, а ўдалечыні цямнее лес—пачатак таго самага лесу, у якім некалі паляваў Ільіч.

Маленькія пейзажы Касмачова — вельмі складаны свет ягонай творчасці. Яны надзвычай цэласныя па задуме, уражваюць сваёй завершанасцю, мяккасцю каларыту, тонкай градацыяй колераў, своеасаблівай матавай паверхняю.

Майстэрства не прыйшло адразу. Мастак доўгі час вывучаў тэхналогію жывапісу Канстанціна Юона і Ігара Грабара.

Дзесяць гадоў рабіў ён разнастайныя доследы над грунтамі. Пасля доўгіх пошукаў выпрацаваў сваю адмысловую тэхналогію грунтоўкі палатна.

Вось такі ён неспакойны мастак, гэты чалавек. Вучань Віцебскага тэхнікума, дзе выкладалі ў гады яго вучобы Ф. Фогт, М. Эндэ, Ю. Пэн, С. Юдовін, М. Керзін, А. Бразер, В. Волкаў, І. Ахрэмчык, М. Лебедзева, Ул. Хрусталёў, М. Міхалап.

Там, у тэхнікуме, выпрацаваліся яго жыццёвыя пазіцыі і пазіцыі мастака-рэаліста.

Цяпер Касмачоў поўны новых творчых задум. У яго майстэрні—узорны парадак. Тут захоўваюцца шматлікія яго эскізы, накіды, нямала завершаных твораў, якія пакуль што не пабывалі на выстаўках. Патрабавальны да сябе мастак выпрабоўвае іх часам. Ён яшчэ і яшчэ вывярае кожны сантыметр свайго жывапісу, перш чым аддаць яго на суд гледача.

**Ф. ВАЛАДЗЬКО.**



ЧАКАЙЦЕ НАС, КАСМІЧНЫЯ ДАРОГІ...

Фотаэцюд М. АМЕЛЬЧАНКІ.

вым, які даволі дакладна выказаў свае адносіны да пытання.

— Логікі няма, але лес патрэбны.

На маю заўвагу, што можа толькі гадоў праз сто нашчадкі нашыя змогуць зноў у гэтых месцах убачыць дубровы, той жа Цымбалаў адказаў:

— І праз сто пяцьдзесят гадоў такога лесу не вырасце.

Іменна тут ад адміністрацыі Тураўскага леспрамгаса павінна была б зыходзіць ініцыятыва пошукаў выйсця з таго складанага становішча, у якім зараз у сувязі са стварэннем запаведніка, апынулася прадпрыемства. Бо шукаць яго ўсё роўна прыйдзецца. Але пачнем гаворку па парадку.

Цэнтрам леспрамгаса з'яўляецца рабочы пасёлак Хваенск, размешчаны на самой тэрыторыі запаведніка. Пасёлак гэты быў створаны раней, і ў тым, што ён тут знаходзіцца, вінаватых няма. Ад Хваенска ў некалькіх напрамках разыходзяцца лініі вузкакалейкі, якія могуць і для запаведніка быць вельмі карыснымі, бо іншых дарог тут амаль і няма.

Леспрамгас сячэ на тэрыторыі запаведніка толькі чацвёртую частку свайго плана, такім чынам, яго залежнасць ад запаведніка не такая ўжо і вялікая. І ў 1975 годзе, калі скончыцца дазвол на сечку ў запаведніку, леспрамгасу ўсё роўна трэба будзе шукаць новае месца. Дык чаму ж не заняцца гэтым зараз?

Я цалкам згодны з намеснікам міністра лясной гаспадаркі У. Рамапавым, калі ён гаворыць:

— Існуе Хваенск і людзі. Куды іх дзець?

Але ўзнікае адразу ж пытанне — а хто зараз ведае, куды іх у 1975 годзе падзенуць? Хто сёння дбае пра гэта? Ніхто. Ці не складзецца у 1975 годзе такое самае становішча, ці не прыйдзецца зноў на пэўны тэрмін захаваць статус-кво? Леспрамгасу ўжо сёння трэба знайсці новае месца для цэнтра і ўжо сёння павінны быць зроблены захады да таго, каб яго перабазіроўка да 1975 года была скончана. І калі пачаць яго паступовае перамяшчэнне ўжо зараз, то пэўна і высякаць у запаведніку ён будзе менш.

Здаецца недарэчнасцю і тое, што ўпраўленне запаведніка знаходзіцца ў Тураве. Тураў за 15 кіламетраў ад запаведніка. Гэта 15 кіламетраў вельмі дрэннай дарогі, якая ў дождж ператвараецца амаль у непраходную. А з Хваенска дабрацца ў любы пункт запаведніка значна прасцей. Пасёлак мае даволі нядрэнныя жыллёвыя і культурна-бытавыя ўмовы, добра наладжанае забеспячэнне. Большасць людзей, з якімі мне давялося гаварыць у Тураве і ў Мінску (супрацоўнікі Акадэміі навук, Камітэта па ахове прыроды), сцвярджаюць, што менавіта Хваенск — ідэальны цэнтр для запаведніка. Між тым у Тураве ўжо выдзелена ўпраўленню запаведніка тры гектары зямлі, на якіх у бліжэйшы час павінна пачацца будоўля, і калі ў гэта будуць укладзены вялікія сродкі, то «перайграць» зробленае будзе вельмі цяжка. Пытанне гэта трэба вырашыць як мага хутчэй.

Хочацца прывесці і такое меркаванне. Пэўную колькасць лесу сам запаведнік усё роўна высякаць павінен, і калі гэты лес адсюль не вывозіць, а перарабляць на месцы, то і некаторую частку рабочых рук леспрамгаса можна будзе заняць і гэта зменшыць балючасць аперацыі па перабазіроўцы леспрамгаса.

У карысць Хваенскага варыянту яскрава гаворыць і той факт, што вучоныя Гомельскага універсітэта абралі яго сваёй навуковай і вучэбнай базай, адмовіўшыся ад Турава адразу і катэгарычна. Ды і група маладых вучоных з Мінска таксама адмовілася ад Турава і перабралася ў вёску Азярыны на тэрыторыі запаведніка.

Запаведнік носіць назву ландшафтна-гідралагічнага, і другім аб'ектам, не менш важным за лясы, якія трэба ахоўваць, з'яўляюцца балоты. Масівы некранутых балот тут захаваліся яшчэ вялікія. Гэта вельмі важна, бо на малой тэрыторыі захаваць гідралагічны рэжым немагчыма.

Сучасная гідралагічная навука яшчэ не дала адказу на вельмі важнае пытанне: на якой адлегласці ад асушанага аб'екта выяўляецца ўздзеянне асушэння. Ясна адно — чым большы масіў асушваецца, тым на большай адлегласці гэта адчуваецца. А гэта значыць, што на пэўнай адлегласці за межамі запаведніка трэба стварыць ахоўную буферную зону, якая з гаспадарчага выкарыстання не выключаецца, але ў якой павінна быць забаронена меліярацыя. У гэтай зоне трэба будзе забараніць і паляванне, бо звер і птушка, трэба думаць, межаў запаведніка прызнаваць не будуць.

У першую чаргу такая ахоўная зона павінна быць вызначана на поўдні запаведніка, дзе яго мяжа праходзіць па сушы і дзе меліярацыйныя работы ў некаторых месцах ужо распачаты. Але і за воднымі межамі — Ствігай і Убарцю зона павінна быць таксама выдзелена, бо змена рэжыму гэтых рэк можа ператварыць іх у помпы, якія будуць спраўна смактаць ваду і з запаведных балот.

Між тым выдзяленне такой ахоўнай зоны пакуль што застаецца толькі пажаданнем вучоных, а ў кампетэнтных органах яно яшчэ нават і не абмяркоўвалася.

Складаныя адносіны ўтвараюцца паміж запаведнікам і калгасамі, што мазаічна ўкраплены ў яго тэрыторыю, і складанасць гэтых адносін па меры ўвядзення запаведнага рэжыму павінна ўзрасці.

Да стварэння запаведніка калгасы, напрыклад, свабодна карысталіся дубровамі для выпасу жывёлы. Лясгас ім гэта дазваляў, і на працягу пэўнага часу будзе дазваляць і запаведнік, бо няма чаго пакуль прапанаваць узамен. Але вечна так не будзе — лес, у якім пасецца статак, не можа самаўзнаўляцца, бо каровы вытоптваюць і выядаюць падрост. Мне давялося ўжо бачыць пад Туравам дубровы, дзе няма ніводнага маладога дрэва, бо іх літаральна «карова языком злізала».

Наогул, ахова запаведніка пакуль што не арганізавана ніяк. Тут ёсць два аспекты — маральны і юрыдычны. І маральны — значна больш складаны, бо свядомыя адносіны да прыроды, на жаль, у нас яшчэ не сталі масавай з'явай. Тым больш здаецца незразумелым, што за год існавання запаведніка з насельніцтвам не было праведзена ніякай выхаваўчай работы.

Вось характэрныя лічбы, якія я атрымаў у заолага запаведніка В. Клакоцкага. На прыбярэжных грывах, якія ў час вясенняга паводка з'яўляюцца месцам гнездавання водаплаваючых птушак, на плошчы ў два гектары ён налічыў 123 гнязды, разбураных чалавекам — больш за палавіну таго, што тут было. Ці не абуральны гэта факт. Большасць насельніцтва нават і не ведае пра існаванне запаведніка, а тыя, што ведаюць, не ўяўляюць сабе прычын і мэтаў яго стварэння. Больш таго — тут выпрацоўваецца вельмі небяспечны стэрэатып адносін да запаведніка — упэўненасць, што яго стварэнне нічога не змяніла.

Прапаганда аховы прыродных багаццяў у гэтым раёне павінна весціся асабліва інтэнсіўна. Папрок трэба кінуць не толькі адміністрацыі запаведніка, але і партыйным і савецкім органам Жыткавіцкага і Петрыкаўскага раёнаў, камсамольскім арганізацыям і органам народнай асветы. У іх былі ўсе магчымасці правесці сходы, гутаркі з насельніцтвам, з дзецьмі. Пэўна, мае сэнс выпусціць вялікім тыражом брашуру ці хаця б лістоўку і распаўсюдзіць яе сярод насельніцтва (зразумела, бясплатна). Трэба думаць, што пэўныя станоўчыя вынікі гэта дало б.

А юрыдычны аспект такі—запаведнік павінен быў пачаць сваё існаванне з мерапрыемстваў па ахове тэрыторыі. І перш за ўсё ва ўсіх пунктах, адкуль магчыма пранікненне ў запаведнік, трэба было даўно ўжо паставіць аншлагі. Чалавек, уступаючы ў запаведнік, павінен ведаць, дзе ён знаходзіцца.

У запаведніку засталіся працаваць усе леснікі лясгаса, і гэта добра—хто лепш за іх ведае лес? Але ёсць розніца паміж леснікам лясгаса і егерам запаведніка. Егераў трэба вучыць і выхоўваць, а гэта патрабуе працы і часу. Між тым, у гэтым напрамку пакуль не зроблена нічога.

На тэрыторыі запаведніка можна яшчэ ўбачыць папуляцыі рэдкіх птушак — турухтанаў, галстучнікаў, малой крачкі, чорнага бусла. Ёсць тут і рэдкія расліны, сярод іх рэлікт трацічнага перыяду—плывучая папараць, salvinia natans, якая ва ўсім свеце выжыла зараз у лічаных мясцінах. І калі ёсць магчымасць захаваць іх для навукі і для нашчадкаў, то не выкарыстаць гэтую магчымасць будзе злачынствам. Знішчыць цэлы біялагічны від вельмі лёгка, стварыць яго нанава — немагчыма. Іменна таму ахова запаведніка — справа найвялікшай дзяржаўнай важнасці.

Падлічана, што кожны рубель, укладзены ў навуку, прыносіць большы прыбытак, чым у любой вытворчасці. Прыпяцкі запаведнік — унікальная навуковая лабараторыя, магчымасці якой трэба выкарыстаць у поўнай меры. Між тым, Акадэмія навук да гэтага часу не стварыла вучонага савета запаведніка, не ўкамплектаваны і кадры навуковых супрацоўнікаў.

Праблем, якія стаяць перад запаведнікам, сапраўды многа, яны рознай складанасці, некаторыя з іх можна вырашыць адразу, другія патрабуюць вялікай і складанай працы. Але вырашыць іх неабходна. Усе да адной.

**Ілья РАТНЕР,**
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».

З ДАЛЕКІХ ПАДАРОЖЖАЎ

# ПРА ІТАЛІЮ І ІТАЛЬЯНЦАЎ


А. ЗАЛЕСКІ,

доктар гістарычных навук, прафесар


## АД'ЯЗДЖАЕМ З МАСКВЫ...

Амаль сорак гадоў чытаю лекцыі пра Ватыкан і каталіцызм. Але ўсё неяк не выпадала наведаць Рым і Італію.

І вось у складзе турысцкай групы Усесаюзнага таварыства «Веды» я еду ў гэтую краіну. Група невялікая (каля 20 чалавек), у ёй прадстаўнікі амаль усіх рэспублік Савецкага Саюза. Тут і рускі — член-карэспандэнт АН СССР Ул. Сіфараў, і літовец — партыйны работнік П. Мішуціс, і беларус — намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення таварыства «Веды» А. Ракавец, і туркмен — акадэмік Ага Карыеў, абхазскі пісьменнік Б. Шынкуба, азербайджанскі акадэмік Г. Аліеў, грузінскі прафесар А. Іаселіяні, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў, грамадскія дзеячы. Усе мы — актывісты і лектары таварыства «Веды».

Кастрычніцкім ранкам пачалося наша падарожжа. Пяць гадзін у паветры. Пад крыламі лайнера мяняюцца краявіды: рускія лясы, украінскія стэпы, горы Югаславіі, Адрыятыка і нарэшце — Рым, вечны горад.

## «БАНКО ДЗІ САНТО СПІРЫТО»

У першай палове дня прызямліліся на аэрадроме міжнароднага аэрапорта ў Рыме. Першым італьянцам, якога я сустрэў, выходзячы з самалёта, быў паліцэйскі ў шэрай форме. Потым мы сустракалі паліцэйскіх-рэгуліроўшчыкаў у чорным, карабінераў у сярэдневяковых трохкутных капелюшах і яркіх мундзірах.

Наш гід — маладая дзяўчына Адрыяна Трап'яні. Фірма «Італтурыст» пасылала яе вучыцца ў Маскву. І Андрыяна няблага ведае рускую мову.

У будынку аэрапорта, як толькі мы падышлі да пагранічнага кантролю, у вочы кінуўся надпіс, што зіхацеў неонавым святлом на дальняй сцяне залы: «Банко дзі санто спірыто». Тыя, хто разумеў лаціну, адразу пераклалі яго. Дарэчы, вельмі зручна адчуваў сябе ў Італіі прафесар медыцыны з Яраслаўля В. Нікіцін — ён, свабодна валодаючы лацінскай мовай, заўсёды мог пагаварыць з італьянцамі без перакладчыка.

«Банко дзі санто спірыто». «Банк святога духа» — гэты фінансавы павук даўно памагае духоўным айцам каталіцкай царквы смактаць кроў з працоўнага народа.

Які парадокс —банк і дух, ды яшчэ святы. Веруючых вучаць, што святы дух — гэта нешта наднатуральнае, звышістотнае, вельмі чыстае. І раптам — банк, грошы, барышы...

Нас адвезлі аўтобусам у аэрапорт унутраных зносін, дзе мы перасelі ў самалёт на Венецыю. Пакуль чакалі, Адрыяна рашыла пачаставаць нас абедам у рэстаране аэрапорта.

Італьянскія спагеці. Колькі напісана пра іх! Не абышлося, зрэшты, і ў нас без смеху, калі мы няўмела паднімалі з талерак пасмы макаронаў і накручвалі іх на відэлец, хоць добра нагледзеліся ў кіно на такія камічныя сцэны.

Аднак з праблемай «спагеці» ўправіліся хутка і паспяхова. Больш складаны быў увесь распарадак харчавання, італьянскае меню. Тут, на наш погляд, усё было дагары нагамі. Каля 8 гадзін раніцы — снеданне: маленькая булачка, каліўца масла, джэму, кубачак кавы. У 13—14 гадзін — абед: дзве другія (па-нашаму кажучы) стравы: адна мясная і абавязкова макароны, напіткі, фрукты. У нас — сама акурат на снеданне. Вечарам падаецца тое, што ў нас ядуць на абед — суп або булён, мясное, напіткі, дэсерт, і, вядома, — макароны.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ВЕНЕЦЫЯ!

Аэрадром Венецыі. Здалёк відаць, як на беразе мора раскінуўся гэты дзівосны горад.

Аўтобусам да гасцініцы даехаць не змаглі. Ён спыніўся перад Вялікім каналам, па якім мы паплылі далей на цеплаходзе. Ад гэтага канала меншыя каналы разыходзяцца па ўсім горадзе, разбіваючы яго на кварталы. У сярэдзіве іх ёсць плошчы — кампа. З будынкаў цяпер часцей за ўсё выхады вядуць на гэтыя плошчы або вуліцы. Раней, калі вада не ўзнімалася так высока, як цяпер, выхады былі проста на каналы.

Па вуліцах Венецыі, як і ў іншых партовых гарадах Еўропы, з незалежным выглядам шпацыруюць амерыканскія маракі. Хоць, як венецыянцы любяць падкрэсліваць, патрон горада — сам святы Марк, але і ён не змог выбавіць гараджан ад няпрошаных гасцей.

Цудоўная архітэктура ў Венецыі. Гэта сапраўдны горад-музей. Многа я пабачыў храмаў у розных краінах, але такіх дзівосаў, як у Венецыі, не бачыў. Здзіўляла не толькі архітэктура.

Сабор св. Марка. Храм разам з турмой уваходзіць у комплекс старадаўняга палаца дожаў. Тлумачэнні дае мясцовы гід, Адрыяна перакладае.

Перш чым гаварыць пра архітэктуру, гід з сур'ёзным выглядам расказвае «біяграфію» самога святога, пра мошчы апостала, якія нібыта ляжаць у алтары, пра тое, што галава яго нейкім чынам засталася ў адной з цэркваў Каіра і г. д., і да т.п.

Турысты хочуць як мага больш даведацца пра краіну, якая стала мэтай іх падарожжа. Таму іх «адпачынак» — звычайна даволі напружаная «праца». Зразумела, і нас не магло задаволіць толькі тое, што паказалі і што расказалі гіды. У першы ж вечар мы разышліся па горадзе дробнымі групамі, так сказаць, у «неарганізаваным» парадку.

Трохі прайшоўшы ад гасцініцы да заліва, мы апынуліся на плошчы св. Марка. Гэта любімае месца адпачынку венецыянцаў. Плошча — правільны чатырохкутнік, з усіх бакоў шматпавярховыя будынкі. Тут тры рэстараны. На маленькіх эстрадах іграюць джаз-аркестры. Вечарам горача і шмат столікаў з плеценымі крэсламі вынесена на плошчу. Людзей за столікамі мала — відаць, не многім па кішэні.

Не паспелі мы добра агледзецца, як раптам пачулі дарагія нам гукі «Кацюшы». Італьянцы вельмі любяць гэтую песню. Гуляючы па плошчы, мы з прыемнасцю слухалі бясконцыя джазавыя папуры і, што нас зусім расчуліла, дык гэта тое, што лейтматывам іх была ўсё тая ж наша «Кацюша». Яна то паўтаралася галоўнай тэмай, то чулася нейкім далёкім водгаласкам, як бы ствараючы фон для ўсёй музычнай праграмы. У мелодыях «Кацюшы» мы ўпершыню адчулі сімпатыі італьянцаў да савецкага народа, да яго гераічнай барацьбы супраць фашызму ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

У Венецыі мы першы раз сустрэліся і з дэмакратычнай, працоўнай Італіяй.

Гэта было на ўскраіне горада. Па вуліцах ішлі людзі ў танных картовых портках, стаптаных чаравіках, прасценькіх кашульках.

Аднойчы раніцай мы сабраліся наведаць палац венецыянскіх дожаў. Раптам у вестыбюлі — нейкая замінка.

— Сёння музей наведаць нельга, забаставалі служачыя музея, — паведаміў гід.

Выйшлі на вуліцу, пачалі раіцца, як больш рацыянальна выкарыстаць час, куды лепш пайсці.

І тут пачулі зычныя воклічы, гул галасоў. З-за вугла з'явілася калона людзей з транспарантамі, чырвонымі сцягамі.

Дэманстрацыя...

Гід растлумачыў, што гэта калона рабочых-забастоўшчыкаў гадзіннікавага завода.

Гэта была наша першая сустрэча з арганізаваным атрадам слаўнага італьянскага рабочага класа.

## ТУТ ВУЧЫЎСЯ ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

У Рым едзезм аўтобусам. Па дарозе павінны спыніцца ў Фларэнцыі, Падуі, якая не можа не ўсхваляваць сэрца беларуса, бо тут вучыўся Францішак Скарына.

Едзем з Венецыі па аўтастрадзе «Сонца». Гэта магістраль пракладзена па ўсіх правілах дарожнай тэхнікі. Яна пралягае праз усю Італію, з поўначы на поўдзень краіны.

Аўтастрада належыць прыватнай кампаніі і за праезд па ёй трэба плаціць — ад горада да горада, ад аднаго кантрольнага пункта да другога. На першым пасту наш шафёр заплаціў 300 лір за першыя 30 кіламетраў дарогі.

Ніхто з нас яшчэ ніколі не ездзіў па платнай дарозе. Ёсць аб чым падумаць, ёсць аб чым пагаварыць.

Успамінаюцца нашы сустрэчы ў Венецыі, у таварыстве «Італія—СССР». Там мы па-сяброўску гаварылі з людзьмі, якія вельмі паважаюць нашу краіну, многія з якіх ведаюць рускую мову. Абменьваемся думкамі, удакладняем у гіда і вадзіцеля тое, што ўжо чулі. У Італіі (як, зрэшты, ва ўсіх капіталістычных краінах) вельмі высокая кватэрная плата. На кватэру рабочы ў сярэднім выдаткуе каля 30—40 працэнтаў заработнай платы.

Тут грошы лічаць тысячамі і дзесяткамі тысяч. Рабочы ў сярэднім атрымлівае 90 тысяч лір у месяц. Цікавімся коштам медыцынскага абслугоўвання. Аказваецца, за аперацыю апендыцыта трэба плаціць 40 тысяч лір — палову месячнай зарплаты. Гэта толькі за аперацыю... А трэба ж плаціць і за ўтрыманне, і за догляд у шпіталі.

— 40 тысяч бярэ звычайны доктар, — гавораць нам італьянскія субяседнікі, — а славутаму спецыялісту трэба плаціць да 120 тысяч лір...

Падчас размовы пазіраю ў акно аўтобуса, заўважаю дарожны знак з надпісам «Падуя». Пытаюся ў гіда:

— Будзем спыняцца?

— Не надоўга, толькі каля сабора св. Антонія.

— Я ведаю, што католікі вельмі шануюць Антонія Падуанскага, але вельмі прашу вас хоць бы праехаць міма Падуанскага універсітэта.

Тут я коратка тлумачу калегам і гіду, што ў пачатку XVI стагоддзя ў Падуанскім універсітэце вучыўся выдатны беларускі асветнік і першадрукар Францішак Скарына.

Мая просьба задаволена і пасля наведвання сабора св. Антонія мы праязджаем міма універсітэта. На жаль, бачым толькі сцены будынка, дзе сын полацкага беларуса атрымаў ступень доктара навук.

Я ўсхваляваны і, здаецца, нішто ўжо ў дарозе да Фларэнцыі не зможа зрабіць на мяне большага ўражання.

Далей горад Ферара. На адным з лепшых будынкаў чырванню вялікіх неонавых літар зззяе надпіс, які паведамляе, што тут размешчана кіраўніцтва арганізацыі камуністычнай партыі горада. Гід дадае:

— У Ферары і мэр камуніст.

## СУСТРЭЧЫ З РАБОЧЫМІ І КАМУНІСТАМІ

Хочацца падзяліцца ўражаннямі, якія пакінулі самы глыбокі, незабыўны след у маёй памяці. Гэта — сустрэчы з рабочымі-камуністамі, з людзьмі працы і змагання.

Едучы ў Італію, мы, як энтузіясты таварыства «Веды», падрыхтаваліся прачытаць там лекцыі. Асабіста я рыхтаваўся расказаць аб сістэме вышэйшай адукацыі ў СССР.

У Фларэнцыі мы наладзілі сувязь з мясцовым філіялам таварыства «Італія—СССР», і прадстаўнікі гэтага таварыства запрасілі нас выступіць з лекцыямі ў рабочых клубах.

У першы вечар мы выступалі ў двух рабочых клубах. З лекцыяй пра дасягненні савецкай навукі да рабочых паехаў кіраўнік нашай дэлегацыі член-карэспандэнт АН СССР Ул. Сіфараў. Мяне запрасілі ў другі рабочы клуб на ўскраіне горада.

Клуб быў у новым двухпавярховым будынку, проста, але з густам абсталяваны. Унізе — кафэ з джазавым аркестрам і пляцоўкай для танцаў, на другім паверсе — лекцыйна-канцэртная зала.

Сустракалі нас вельмі ветліва і прыязна. Маю лекцыю перакладала Адрыяна і, не маючы часу, я расказаў толькі самае галоўнае. Але пытанняў было шмат. Усе яны сведчылі аб вялікай цікавасці і павазе да нашай краіны.

На другі вечар мы ўсёй групай паехалі ў рабочы гарадок Кампа. Аўтобус спыніўся на вялікай плошчы, абапал якой узвышаліся два трохпавярховыя будынкі. На адным з іх мы ўбачылі знаёмыя ўжо і такія родныя словы—«Камуністычная партыя Італіі». Тут быў яе мясцовы раённы камітэт. У будынку мы пазнаёміліся з сакратаром партыйнага камітэта і даведаліся, што ў гэтым рабочым гарадку мэр таксама камуніст.

У Кампа муніцыпалітэт і мэр горада аддалі для культурных патрэб рабочых трохпавярховы будынак. З лекцыяй тут мы не выступалі, а толькі адказвалі на пытанні. Потым нас частавалі віном і лёгкімі закускамі.

Так, незабыўныя гэта былі сустрэчы. А яны ў нас адбываліся і ў іншых гарадах Італіі.

## КАНТРАСТЫ ВЕЧНАГА ГОРАДА

Я ўжо ўспамінаў пра тое, што, займаючыся гісторыяй каталіцызму, я многа чытаў пра Ватыкан. І вось цяпер я бачу гэту папскую дзяржаву ў Рыме. Нічога не скажаш — сапраўды дзяржава ў дзяржаве. Яна аддзелена ад астатняй Італіі мурам і белай лініяй на асфальце плошчы святога Пятра.

Цяжка мяне чым-небудзь здзівіць у Ватыкане. Аднак усё-такі не толькі здзівіла, але і ўзрадавала адна акалічнасць. Калі мы хадзілі па саборы св. Пятра, я задаваў нашаму рымскаму гіду шмат пытанняў. Гідам гэтым была маладая, прыгожая дзяўчына. І яна не змагла адказаць на некаторыя даволі простыя пытанні, звязаныя з рэлігійнымі абрадамі і рытуаламі. І я яшчэ пераканаўся, што нават у такіх «каталіцкіх» краінах, як Італія, насельніцтва адыходзіць ад рэлігіі. Гіда, відаць, вучылі і навучылі многаму, але дзяўчына так і не засвоіла таго, што звычайна ўбівае ў галаву дзецям рэлігійная маці.

Творы мастацтва, сабраныя ў Ватыканскім музеі, літаральна падаўляюць заморанага ўражаннямі турыста. Як і іншыя 6 тысяч штодзённых наведвальнікаў, мы прайшлі па залах музея 2 кіламетры. Экспанаты сюды звезены, здаецца, амаль з усяго свету.

Успамінаецца, як наша Адрыяна перакладала ў адным з музеяў расказ мясцовага экскурсавода пра гісторыю экспанатаў. Перакладаючы, яна ўвесь час гаварыла: «Кароль украў гэтую рэч у Афрыцы», «Напалеон украў яе ў Італіі», «Мусаліні зноў украў у Францыі»...

Адрыяначка-галубка, як добра пераклала яна самую сутнасць справы!

Тут сапраўды на кожным кроку сустракаешся з прыкладамі, як адны рабаўнікі рабавалі другіх рабаўнікоў. Але ўсё гэта рабілася за кошт народаў...

Аднаго разу мы павінны былі наведаць Рымскі універсітэт, сустрэцца там з прафесурай і студэнтамі. Камусь гэта, аднак, не спадабалася, і сустрэча не адбылася, як кажуць не па нашай віне, хаця мы прыехалі ў прызначаны час і чакалі не менш гадзіны.

Адным словам, прыйшлося мяняць план і нечым запоўніць першую палову дня. Так мы зрабілі не прадбачаную праграмай прагулку за горад. Выехалі праз паўднёвы прыгарад у поле па старажытнай Апіевай дарозе. Адсюль павярнулі ўправа і цераз поле трапілі на другую ўскраіну Рыма —у новы гарадскі раён Эўр. Тут прыгожыя дамы гарадскіх багацеяў. У гэты, як мы гаворым, мікрараён перабраліся нават некаторыя міністэрствы. Эўр робіць моцнае ўражанне...

З Эўра мы едзем у цэнтр Рыма па новай шырокай дарозе, якая ператвараецца ў вуліцу са шматпавярховымі дамамі на адлегласці 70—80 метраў ад праезджай часткі. І раптам каля толькі што збудаваных прыгожых дамоў сярод хламу, ламачча відаць было мноства халуп, будак, паўзямлянак, злепленых, складзеных з каменя, абломкаў цэглы, кавалкаў старой бляхі, дыхты.

Тут жывуць людзі. Толькі галеча працоўных—спадарожніца капіталізму—змагла загнаць іх сюды і ператварыць гэтыя норы ў жыллё.

Цяжка і моташна зрабілася на душы. Успаміналася размова з гідам на амерыканскай архітэктурнай выстаўцы ў Мінску. Тады гіду, які хваліў амерыканскі лад жыцця, я пачаў гаварыць пра супярэчнасці капіталістычных гарадоў, пра брудны негрыцянскі раён Гарлем у адным з найвялікшых гарадоў свету Нью-Йорку. Гід нервозна адказаў:

— Куды ні прыедзем, усюды папракаюць Гарлемам.

— А вы вазьміце і ліквідуйце яго, каб не папракалі, — адказаў я.

Настала паўза. Ліквідаваць гарлемы, гэта значыць, ліквідаваць капіталізм...

Праспект, на якім мы бачылі рымскія трушчобы, аказваецца, ляжыць на важнай магістралі. Назаўтра, калі мы накіраваліся ў аэрапорт, то зноў праехалі па ім, пазналі яго і ўважлівей прыгледзеліся да гэтых язваў капіталістычнага грамадства.

У самым цэнтры Рыма ёсць і своеасаблівае «дно», дзе збіраюцца дэкласіраваныя элементы. Ад плошчы Іспаніі ўгору да парку Баргезе вядзе шырачэзная, метраў 50, высокая мармуровая лесвіца з пераходамі, пляцоўкамі, скульптурамі. І вось гэтае цуда мастацтва яны сабе і выбралі. Усе дрэнна апрануты. Сядзяць, стаяць, ходзяць па прыступках, гандлююць нікому не патрэбнай дробяззю, сувенірамі, сабачкамі, малююць, прадаюць малюначкі.

Цяжкае відовішча!

Вельмі прыгнечана адчуваў я сябе сярод гэтых няшчасных, незадаволеных сваім лёсам людзей, калі апынуўся надвячоркам на прыгожай мармуровай лесвіцы.

У Рыме многа кінатэатраў, шмат у якіх з іх дэманструюцца сексуальныя фільмы. Працоўная прагрэсіўная Італія змагаецца з гэтай пошласцю.

І вось яшчэ адзін з кантрастаў Рыма. Я тут даволі рэдка сустракаў міні-спаднічкі.

## МЫ «АДКРЫВАЕМ» САРДЫНІЮ

Яшчэ ў Маскве мы ведалі, што ў наш маршрут уключана Сардынія. Гаворачы з прадстаўніком «Інтурыста», некаторыя члены нашай групы пярэчылі:

— Няўжо нельга было запланаваць агляд чаго-небудзь больш цікавага, напрыклад, Неапаля, Мілана?

Прадстаўнік «Інтурыста» адказаў са здзіўленнем і крыўдай:

— Мы так дабіваліся дазволу наведаць гэты востраў. Гэта будзе першая група савецкіх турыстаў, якая пабывае на Сардыніі. Да вас толькі два разы некалькі ўдзельнікаў навуковых канферэнцый з'ездзілі ў паасобныя гарады Сардыніі.

Калі гаварыць шчыра, то неяк не верылася таму, што сказаў нам прадстаўнік «Інтурыста». Але тое ж мы пачулі потым і ад нашых людзей, што жывуць у Рыме.

Чаму ж італьянскія ўлады так не хочуць, каб савецкія людзі ездзілі на Сардынію?

За час свайго падарожжа па Італіі мы ўжо наслухаліся пра пэўную ізаляванасць вострава, пра архаізм мясцовых традыцый, пра асаблівасці мовы, нарэшце — пра бандытызм на Сардыніі. Аднак гэта было яшчэ не ўсё, гэта было яшчэ не тое, не самае галоўнае.

Вось наш самалёт садзіцца на аэрадроме горада Ольбія. Гэта паўночнаўсходняя частка вострава, аддзеленая ад мацерыка пралівам. Ольбія — невялікі горад з 18 тысячамі жыхароў, але з марскім портам. І тут якраз ходзячы па беразе, мы ўбачылі тое, што забаронена бачыць турысту. Нам наказалі востраў Тавалара, які быў відзён на гарызонце. Там размяшчалася адна з ваенных баз НАТО. Каб зручней было ажыццяўляць сваю кіруючую ролю ў гэтым ваенным блоку, адна вялікая дзяржава купіла гэты востраў.

Атрымалася, як кажуць, пусцілі за стол, а свіння і ногі на стол. Дарэчы —«стол» па-італьянску «тавалара».

У далейшым падарожжы па ўзбярэжжах Сардыніі мы не раз бачылі на рэйдзе ваенныя караблі адной саюзнай з Італіяй дзяржавы. Мне яшчэ і яшчэ раз успаміналася Венецыя, дзе матросы амерыканскага ваеннага флоту так развязна трымаліся з мясцовымі дзяўчатамі.

Словам, як і дамовіўся наш «Інтурыст», мы паехалі цераз увесь востраў.

Спачатку наша дарога ляжыць на паўднёвы захад у горад Альгіера, на заходнім баку вострава. Едзем аўтобусам па гарыстай мясцовасці цераз плато і перавалы.

Я гляджу цяпер на ўсё навакольнае толькі, здаецца, вачыма географа. Вось «маладыя» горныя пароды, яшчэ не пакрытыя расліннасцю, вось схілы гор, дзе скалы пакрышыліся ад актыўных тэктанічных працэсаў. Параўнаўча бедная расліннасць. Але тут сустракаюцца плантацыі коркавага дуба. А якія прыгожыя кактусы з чырвонымі ягадамі! Імі тут абсаджваюць сядзібы, нібы абгароджваючы іх непралазным плотам.

Паабапал дарогі зноў і зноў мільгаюць пустыры — дзірваны, на якіх можна было б сеяць культурныя расліны. Ад паўночных межаў Італіі да Сіцыліі раскінуліся абшары пустых памешчыцкіх земляў. За іх так доўга змагаюцца сяляне, але марна. Цяпер я сам гэта ўбачыў, усюды, ад Венецыі да Сардыніі.

— Адрыяна, Адрыянка, Адрыяначка, спыніце аўтобус, — просяць турысты. — Давайце крыху пагуляем па гэтых горных зарасніках.

Адрыяна шэпчацца з шафёрам і збянтэжана адказвае:

— Тут могуць напасці бандыты, спынімся дзе-небудзь далей ад лесу і кустоў.

У Сардыніі мы сустрэліся са своеасаблівай рэкламай, адчулі нават яе на... сваіх страўніках. Абедаць па дарозе ў Альгіера давялося ў горным рэстаране Рынаджу каля гарадка Тэмпіо Паўзанія. Яшчэ на вуліцы нас ветліва сустрэлі афіцыянты.

І вось рэклама... «Які абед нам падавалі, якім віном нас частавалі»... Не хачу стамляць чытачоў апісаннем гэтага абеду. Скажу толькі, што гаспадар адпусціў нам двайную порцыю смачных страў, віна, фруктаў, чаго не прадугледжвалася па дагаворы з турысцкай арганізацыяй. Кожнаму далі некалькі прыгожых паштовак з мясцовымі краявідамі. Ва ўсім гэтым мы адчувалі запрашэнне: прыязджайце да нас яшчэ і яшчэ.

Вельмі, вельмі добры рэстаран, але вельмі, вельмі мала там турыстаў...

Мы, натуральна, не засталіся ў даўгу — абдарылі сувенірамі сваіх ветлівых афіцыянтаў.

Заначаваўшы ў Альгіера, мы на другі дзень паляцелі на поўдзень Сардыніі ў Кальяры. Гэта галоўны горад вострава.

## СУСТРЭЧЫ З ПАЛІЦЫЯЙ

Нас возяць па Кальяры. Паказваюць тое, што трэба паказаць турыстам —узвышша, з якога відаць увесь горад. віа, пьяцца, старажытны сабор святой Цэцыліі і храм у стылі мадэрн, археалагічны музей, дзе сабраны выкапні.

Жыць нам давялося не ў самім Кальяры, а ў загарадным прыморскім атэлі Эзіт курортнага пасёлка Поэта. Эзіт — прыгожы, камфартабельны пяціпавярховы атэль з паркам, з цудоўным пляжам і вельмі зручным берагам для марскога купання. Але арыстакратыя ўжо пакінула ўсё гэта, бо наступала восень. Вакол ні душы. Я сказаў свайму суседу па пакоі:

— Аддаць бы ўсё гэта працоўным. Адпачывалі б і лячыліся круглы год.

На другі вечар нас знайшлі прадстаўнікі мясцовых камуністаў і рабочых. Даведаўшыся, што мы прыехалі ў Кальяры, яны аб'ездзілі некалькі гасцініц і ў апошні момант за паўсутак да нашага ад'езду з Сардыніі знайшлі нас у Эзіт.

Было гэта гадзін у шэсць вечара. Два таварышы, што прыехалі па нас, адразу ж, хвалюючыся, сказалі, што яны з горада Гуспіні (70 км. ад Кальяры), што ў іх ужо сабраліся рабочыя і чакаюць нас. Свайго транспарту ў нас не было, адлучылася некуды і наша Адрыяна. У машыну, якая прыйшла па нас, магло сесці яшчэ толькі трое. Кіраўнік групы прафесар Ул. Сіфараў рашыў ехаць сам, запрасіў таксама мяне і нашага маскоўскага гіда Маргарыту Сучкову.

Пакуль мы збіраліся, італьянскія сябры некалькі разоў настойліва напомнілі нам, каб мы ўзялі пашпарты. Я спытаў:

— Дзе і пры якіх абставінах могуць спатрэбіцца пашпарты?

— У нас па начах на дарогах з'яўляюцца бандыты, а таму паліцыя правярае рух аўтатранспарту і дакументы пасажыраў.

Я паглядзеў на Маргарыту і ўбачыў, як яна адразу перамянілася ў твары. Мы ўсе прымоўклі. Першым, парушаючы маўклівасць, я звярнуўся да Маргарыты:

— Нас запрасілі рабочыя і мы паедзем да іх, нягледзячы ні на якія перашкоды.

З гэтымі словамі я сеў побач з вадзіцелем машыны, а мае спадарожнікі размясціліся на заднім сядзенні.

Як толькі мы праехалі Кальяры і выбраліся на шырокую шашу, наш вадзіцель пачаў «націскаць». Яго новенькая машына ляцела стралой. Гэты чалавек атрымаў партыйнае даручэнне — прывезці ў свой рабочы калектыў савецкую дэлегацыю і выконваў яго з гонарам.

Тым часам мы ў машыне вялі вельмі прыемную, цікавую і карысную размову з партыйным таварышам, які прыехаў за намі. Гэта быў яшчэ даволі малады, добра адукаваны чалавек. Маргарыта перакладала і гаварыла з ім па-французску.

Тут, на дарозе, мы і сустрэліся з паліцыяй. Першы раз у незвычайнай абстаноўцы я ўбачыў паліцэйскага на сваёй лекцыі ў рабочым клубе Фларэнцыі. Мне тады растлумачылі, што той паліцэйскі любіць слухаць лекцыі, займаецца сваёй палітычнай самаадукацыяй і часта ходзіць у рабочы клуб...

...Раптам — стоп! У цемры ночы сігналы чырвонага ліхтарыка. Чуецца ўсхваляваны голас вадзіцеля:

— Паліцэй блёк, паліцэй блёк...

З'язджаем на правую абочыну дарогі. На кантрольным посце некалькі паліцэйскіх. Адзін з іх падыходзіць да нас, пытае дакументы. Наш спадарожнік выходзіць з машыны і нешта гаворыць паліцэйскаму. Але што гэта? Паліцэйскі ветліва ўсміхаецца, робіць рашучы жэст, які азначае: «Дарога свабодная!»

Калі машына ірванула з месца, мы спыталі:

— Што гэта ўсё азначае?

— Гэты паліцэйскі або камуніст, або спачувае камуністам. Калі я сказаў, што са мной едуць савецкія таварышы і што яны вельмі спяшаюцца, ён нават не стаў правяраць дакументы. Астатняе вы бачылі самі.

Яшчэ некалькі паваротаў, дарога вузее і ўзнімаецца ў горы. Перад намі шахцёрскі гарадок Гуспіні. Заязджаем у бакавую вуліцу. Тут перад уваходам у клуб нас сустракае натоўп рабочых. Вітаемся, знаёмімся. Падымаемся на другі паверх. Як тут усё не падобна на рабочыя клубы Фларэнцыі. Тут клуб — гэта толькі адзін пакой плошчай 60—70 квадратных метраў.

Мы ў прэзідыуме. Адкрывае пасяджэнне 24-гадовы сакратар партыйнага камітэта. Як гэта даверылі такому маладому кіраваць партыйнай арганізацыяй, класавай барацьбой рабочых трох пасёлкаў і трох буйных прадпрыемстваў? З размоў высвятляецца, што сакратар паходзіць з рабочай дынастыі, сам працаваў з маленства і ў 14 гадоў стаў камсамольскім, а потым партыйным кіраўніком. Да нас падыходзіць сімпатычны пажылы рабочы і, паказваючы на сакратара, з гонарам гаворыць:

— Я член Камуністычнай партыі з 1939 года, а гэта мой сын.

З лекцыяй мы рашылі не выступаць, бо ўжо даволі позна. Адказваем на пытанні рабочых-шахцёраў. Маргарыта перакладае нашы адказы на французскую мову, а таварыш, які прывёз нас сюды, перадае прысутным змест нашых адказаў па-італьянску.

Пасля афіцыйнай часткі зноў традыцыйная сяброўская бяседа. На сталах лікёр, віно, пячэнне, пірожныя. Да нас падыходзіць хлопец, гаворыць, што скончыў курсы ў Маскве. Гутарка пайшла жывей, весялей. Атмасфера самая дружалюбная, сяброўская і добразычлівая.

Гуспіні — гарадок, які знаходзіцца ў гарах, у баку ад вялікіх дарог і прамысловых цэнтраў. Рабочыя тут аказаліся як бы прывязанымі да шахты, на якой яны працуюць, да двухтрох мясцовых прадпрыемстваў. Яны, гаворачы мовай палітэканоміі, не могуць свабодна нават прадаць сваю рабочую сілу.

Ці трэба дзівіцца пасля гэтага, што зарплата шахцёраў тут вельмі нізкая (працэнтаў на 20—30 ніжэйшая за сярэднюю зарплату італьянскага рабочага), а кошт кватэры забірае да 50 працэнтаў заробку.

Калі мы выйшлі з клуба, каб ехаць назад у гасцініцу, то перад будынкам убачылі дзяжурную паліцэйскую машыну. Гэта ўжо абаронцы буржуазнага ладу сачылі за намі далёка не з прычыны простай цікавасці.

## БЫВАЙ, ІТАЛІЯ!

Аэрапорт Кальяры. Адсюль наша дарога зноў у Рым. Калі мы ўранні прыехалі сюды, каб сесці на самалёт, то ўбачылі каля аэрапорта некалькі паліцэйскіх машын. Мяркуючы па форме, у акцыі нашых провадаў удзельнічалі дзве паліцэйскія службы. Усёй аперацыяй кіраваў паліцэйскі генерал. Вось, аказваецца, якой увагі мясцовых улад удастоіліся мы, савецкія турысты.

Ці не таму і размясцілі нас не ў самым Кальяры, а за горадам, у апусцелай гасцініцы Эзіт, дзе гаспадыня ўмее гаварыць па-руску, дзе ў вестыбюлі дзень і ноч дзяжурыў нейкі падазроны суб'ект?

Вось чаму мяне не здзівіла цяпер, калі я сустрэў зусім нядаўна ў «Правде» артыкул Н. Пражогіна «Сардынія — закрыты востраў», дзе наш журналіст скардзіцца на тое, што яму не дазвалялі выязджаць з Кальяры, куды ён не без цяжкасцей атрымаў пропуск на фестываль дакументальных фільмаў па прамысловай тэматыцы.

Цяпер мяне ўжо многае не здзіўляе, калі я сустракаю ў друку паведамленні аб падзеях у Італіі...

Мне цяпер зразумела, як магло здарыцца, што лістападаўская забастоўка 1969 года ахапіла 20 мільёнаў працоўных. Высокая кватэрная плата, дарагоўля на некаторыя прадукты харчавання, нястачы, беднасць і галеча працоўных, палітычная бяспраўнасць — вось тыя прычыны, якія абумоўліваюць барацьбу народных мас за свае правы.

Італія—гэта не толькі краіна турызму, гэта не толькі каналы Венецыі, рымскі Калізей, Ватыкан, мастацкія музеі і Везувій. Італія—гэта краіна цудоўных, ветлівых, вясёлых і працавітых простых людзей, гэта краіна багатых рэвалюцыйных традыцый.

Павятраны шлях з Рыма праз Будапешт вядзе нас дадому, у родную Маскву.

Бывай, Італія, да пабачэння Італія. Да новых сустрэч!

# ПОДЗВІГ ЖУРНАЛІСТА

*Да 50-годдзя з дня смерці Джона РЫДА*



«...Я ад усёй душы раю гэты твор рабочым усіх краін. Гэту кнігу я хацеў бы бачыць распаўсюджанай у мільёнах экземпляраў і перакладзенай на ўсе мовы, таму што яна дасць праўдзівы і надзвычай жыва напісаны пераказ падзей, такіх важных для разумення таго, што такое пралетарская рэвалюцыя, што такое дыктатура пралетарыята».

Гэту маленькую рэцэнзію на кнігу «10 дзён, якія ўзрушылі свет» У. І. Ленін уручыў Джону Рыду асабіста ў 1920 годзе. Рыду не ўдалося ўбачыць новае амерыканскае выданне сваёй кнігі (1926 год), дзе гэтыя словы сталі ў якасці прадмовы. Не збылася і мара напісаць дзве новыя кнігі аб рускай рэвалюцыі, якім ужо былі прыдуманы назвы — «Ад Карнілава да Брэст-Літоўска» і «Дым рэвалюцыі». Джон Рыд памёр за пяць дзён да свайго трыццацітрохгоддзя.

Расіі, рускай рэвалюцыі Рыд аддаў частку свайго сэрца. Таленавіты, дасціпны, вельмі адукаваны выпускнік Гарвардскага коледжа, Джон Рыд не апраўдаў спадзяванняў гэтай цвярдыні плутакратыі. Калі б яны маглі прадбачыць, што сцягі рэвалюцыі ў Расіі будуць вянчаць шлях іх выхаванца, а да гэтага... Да гэтага Рыд змагаецца на барыкадах разам з тэкстыльшчыкамі, якія аб'явілі стачку; у Каларада ён заадно з мяцежнымі рабочымі Ракфелера; у Мексіцы — побач з паўстаўшымі пеонамі. Ён умеў пісаць аб іх барацьбе — з гневам, мукай, праўдзіва і ўзвышана!

Улетку 1917 года Рыд прыехаў у Расію. Ён адчуваў, што пралетарская рэвалюцыя тут непазбежная. І калі па сігнале Смольнага чырвонагвардзейцы рушылі на Зімні, Рыд пайшоў разам з імі. Ён хацеў бачыць усё сам, сваімі вачыма — яму неабходна было зразумець сутнасць таго, што адбывалася. Кастрычніцкая рэвалюцыя, паводле слоў яго сябра, амерыканскага камуніста А. Вільямса, зрабіла з яго «навукова мыслячага і паслядоўнага рэвалюцыянера». Рыд раз'язджае па гарадах Амерыкі, расказвае праўду пра падзеі ў Расіі.

У 1919 годзе Джон Рыд зноў у Расіі, у Маскве, ужо ў якасці члена Выканкома Камуністычнага Інтэрнацыянала. Рэвалюцыйная прапаганда стала справай яго жыцця. На радзіме, у Амерыцы, яго завочна прыгаварылі да пяцігадовага турэмнага зняволення. Але ён кідае выклік (у каторы раз!) лёсу і тайна адпраўляецца ў Нью-Йорк. На гэты раз палубу карабля давялося змяніць на адзіночку ў фінляндскай турме. «Перадай Гарацыю, што вялікі шэф высока ацаніў маю кнігу». Гарацый — гэта Ліўрайт, выдавец «10 дзён». «Вялікі шэф» — Ленін.

Савецкі ўрад прыйшоў на дапамогу Рыду, і ён вярнуўся ў Расію — цяжка хворы, але з вялікім жаданнем працаваць. Ён нават знаходзіць у сабе сілы прыняць удзел у арганізаваным па прапанове Падвойскага футбольным матчы паміж зборнай кангрэсу Камінтэрна і камандай маскоўскіх курсантаў. Рыд піша ў часопісе «Коммунистический Интернационал», выступае на пасяджэннях кагрэсу Камінтэрна, едзе ў Баку на першы з'езд народаў Усходу, а на зваротным шляху ў Маскву ўдзельнічае ў разгроме адной з банд. І ўсё гэта за месяц да смерці.

Альберт Рыс Вільямс піша: «...Джон Рыд ляжыць у адзіным ва ўсім свеце месцы, дзе яму хацелася ляжаць, — на плошчы ля Крамлёўскай сцяны».

С. БУКЧЫН.

